



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

30 лістапада 2018 года №48 (1231)




# Як атрымаць веды і фінансаванне, каб пачаць бізнес

**Камарова. Тут вучаць будаваць бізнес у вёсцы**

старонкі 2-3

На здымку — будынак бізнес-інкубатара ў Камарове. Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

## У Мядзеле збіраюць мясцовых прадпрымальнікаў на круглы стол.

А 14 гадзіне 5 снежня ў Мядзеле адбудзецца сустрэча для прадпрымальнікаў. Ім прапануюць абмеркаваць магчымасці падтрымкі і стымулявання развіцця прадпрымальніцтва.

Зарэгістравацца трэба да 3 снежня.

Арганізуе сустрэчу бізнес-інкубатар у Камарове.

Удзельнічаць запрашаюць усіх зацікаўленых у развіцці дробнага і сярэдняга бізнесу ў Мядзельскім раёне.

Будуць абмяркоўваць:

• Магчымасці падтрымкі на вёсцы, навучанне, кансультаванне, фінансаванне, магчымасці партнёрства з мясцовымі органамі кіравання.

• Стымуляванне развіцця прадпрымальніцтва. Чаго не хапае прадпрымальнікам для большага росту.

• Сінергія прадпрымальніцкай кааперацыі.

Для ўдзелу трэба зарэгістравацца да 3 снежня па тэлефоне **(8-029) 120-64-79**, Анастасія.

Круглы стол праводзяць у межах праекта «Развіццё сельскіх тэрыторый у Рэспубліцы Беларусь».

**Падрабязней пра бізнес-інкубатар у Камарове чытайце на старонках 2-3.**

ISSN 1991–7155




Адсканульце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Як атрымаць веды і фінансаванне,

**Многім для таго, каб увасобіць мару, неабходная падтрымка. Некаторым патрэбныя веды ці добрая парада, іншым – грошы, каб стартаваць.**

Менавіта для гэтага і створаны бізнес-інкубатар у Камарове Мядзельскага раёна. У 2017 годзе тут пачала працу гэта вучэбна-практычная ўстанова па падтрымцы прадпрымальніцтва. Інкубатар садзейнічае развіццю бізнесу ў Мядзельскім, Астравецкім, Смаргонскім і Пастаўскім раёнах.

## Як працуе бізнес-інкубатар

Установа дзейнічае ў межах праекта «Развіццё сельскіх тэрыторый у Рэспубліцы Беларусь: павышэнне ролі сельскага прадпрымальніцтва шляхам стварэння і запуску ў Камарове сельскага бізнес-інкубатара». Гэты праект фінансуе Еўрапейскі саюз, суфінансуе Праграма малых грантаў Амбасады ЗША.

Увасабляюць праект у жыццё таварыствы «Экапартнёрства» і «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю». Бюджэт праекта складае 588 тысяч еўра, 182 тысячы з якіх накіраваныя на падтрымку мясцовых прыватных ініцыятыў.

Ахвотныя павінны былі даслаць заяўкі ў Школу вясковага бізнесу, першы набор якой стартаваў у чэрвені 2017. Сярод іх выбіралі групу слухачоў. Іх запрашалі на некалькі трохдзённых сесій, дзе выкладчыкі вучылі бізнес-планаванню, маркетынгу, менеджменту, прававым асновам.

Напрыканцы вучобы слухачы рыхтавалі бізнес-планы і прэзентацыю, з якой выступалі перад камісіяй падчас Стартап Уікэнда. Выбіралі найбольш перспектыўныя праекты, якія падтрымлівалі на суму ад двух да дзесяці тысяч еўра.

За першы год працы Школы вясковага бізнесу набралі чатыры групы слухачоў каля 15 чалавек. Сярод іх былі людзі розных прафесій і з розным досведам. Але ўсе яны вырашылі пачаць працаваць на сябе. 15 прыватных ініцыятыў падтрымалі за першы год працы праекта.

Акрамя навучання, удзельнікі могуць звяртацца ў бізнес-інкубатар па кансультацыі. Ім дапамагаюць вырашыць бухгалтарскія і прававыя пытанні, шукаць партнёраў і спосабы збыту.

## Якія праекты падтрымалі

У кожным з набораў абіралі ініцыятывы-пераможцы, якія фінансава падтрымалі.

У першым падтрымалі **Людмілу Стучко** з вёскі Тракелі Астравецкага раёна, якая займаецца паслугамі мадэльера-кансультанта па рэканструкцыі і абнаўленні жаночага і мужчынскага адзення. **Вераніку Шчуроўскую** з Залесся, якая займаецца вырабамі з элементамі камбінаванай вышыўкі. **Аляксандру Чыжэўскую** з Залесся, якая вырабляе драўляныя вокны. **Святлану Сенькавец** з Пастаўшчыны, якая з арганічных зярнят грэчкі робіць крупы, фасуе іх і прадае. Астатнія маглі дапрацаваць свае праекты і выступіць на наступнай камісіі.

На другім Стартап Уікэндзе перамаглі чатыры слухачы другой школы. **Ігар Хвашчэўскі** з Чухнаў Смаргонскага раёна вырабляе біягумус з утылізацыяй адходаў буйной рагатай жывёлы. **Іван Мацюк** стварае ў сядзібе «Паланэз» музей-трапезную для экскурсій, урачыстасцяў і майстар-класаў. **Аляксандр Гатоўка** ў Мядзельшчыне стварае безадходную ферму з уласнай вытворчасцю кармоў. **Аляксандр Марозік** з Астравецкага раёна стварае буйное сямейнае пчолагадоўчае прадпрыемства на базе сямейнай пасекі. **Дзмітры Стралец** з Нарачы стварае на базе будаўнічай кампаніі «Нарс» растворныя і бетонныя сумесі.

Сем'і **Юліі** і **Алены Трыбулевых** сталі пераможцамі сярод тых, хто змагаўся за асобны грант пасля дапрацоўкі. Падтрымалі іх праект па развіцці аграсядзібы «Чара» на Астравеччыне.

## «Хвалюецца кожны, хто хоча нечага дабіцца»

Пра тое, як дапамог бізнес-інкубатар развіць бізнес, «Рэгіянальнай газеце» распавяла Вераніка Шчуроўская з Залесся. Яна скончыла першы набор школы і атрымала фінансаванне свайго праекта.

Вераніка заўсёды жыла ў Залессі, цяпер гадуе тут 10-гадовую дачку Маргарыту. Працавала дырэктарам Дома культуры, займалася вышыўкай як рамеснік.

Вышываць пачала яшчэ ў школе. Выйграла ў адным з конкурсаў, дзе ўзнагародай стала кніжка пра тое, як вышываць крыжыкам. Гэту кнігу і цяпер захоўвае дома, а тады яна стала пачаткам самага вялікага захаплення. Кнігу падарыла **Валянціна Міхалкоўская**, якая працавала завучам і сама выдатна вышывае.

Вераніка звычайна вышывае крыжыкам. Робіць вырабы з нацыянальным арнаментам, упрыгожвае торбы.

– Раней, калі не было інтэрнэта, было складана раздабыць схемы, – расказвае вышывальшчыца. – Шукалі ў часопісах, у знаёмых. Рабіла па ўжо гатовых схемах. Самастойна прыдумаць схему складана – трэба разумець, дзе які колер, дзе мяняецца. Цяпер жа ўсё проста. Загрузіў любую фатаграфію ў спецыяльную праграму на камп'ютары – і яна сама разбівае на крыжыкі. Падбірае, дзе якія ніткі. Толькі ідзі ў магазін і набывай.

Пра тое, што ў Камарове будзе Школа бізнесу, спачатку расказаў старшыня сельвыканкама **Зянон Грышкевіч**. А пасля сяброўка **Аляксандра Чыжэўская**, якая займаецца драўлянымі вокнамі, запрасіла паехаць разам.

Вераніка расказвае, што вучыцца было вельмі зручна. Яна на той час звольнілася з пасады дырэктара Дома культуры і мела свабодны час. Заняткі праходзілі ад пятніцы да нядзелі. Першы набор працаваў летам – добрае надвор'е толькі спрыяла вучобе. Заданні па бізнес-планаванні складанымі не былі – жанчына па адукацыі бухгалтар і эканаміст. Затое даведалася шмат новага.

– Выкладчыкаў падабралі вельмі кампетэнтных, – дзеліцца Шчуроўская. – Гэта быў першы набор, таму арганізатары вучыліся на нас, а мы ў іх. У першую чаргу не было складана, таму што кожны ведаў, што хоча атрымаць.

У верасні 2017-га слухачы атрымалі сертыфікаты аб заканчэнні школы, прэзентавалі праекты на Стартап Уікэндзе. Расказвае, што хвалявалася: «Хвалюецца кожны, хто хоча нечага дабіцца».

## Ручная работа – на падарунак ці свята

Праект Веранікі падтрымалі на 5 000 еўра. На 4 300 з іх жанчына набыла абсталяванне – прамысловую швейную



Вераніка Шчуроўская стала прадпрымальнікам у Залессі.

# каб пачаць бізнес



Тэхніка, якую Вераніка набыла за грант.




Набор для хрэсьбінаў.



Сумка з вышыўкай.




Падарунак для бацькоў нованароджанага.

*Артыкул падрыхтаваны ў межах сумеснага праекта з EU Neighbours East «Свой край: партрэты». Погляды, выяўленыя ў тэксце, належаць выключна аўтару артыкула.*

машынку, авярлок, распашывальную машыну, бытавы авярлок, парагладзільную машыну, вышывальную машыну і манекены. На рэшту зрабіла сертыфікат на выраб нацельнага адзення – адзін з тавараў вышывальшчыцы – наборы на хрэсьбіны.

Жанчына стала індывідуальным прадпрымальнікам больш за год таму. Яна не толькі вышывае, але і шые – не дапрацоўвае чужую рэч. Лічыць, што трэба рабіць усё самой з нуля. Калі кліент хоча паліто з вышыўкай, яна сама пашые і паліто, і зробіць вышыўку.

– Цяпер складана ўсім прадпрымальнікам, – расказвае Вераніка. – Ручная праца заўсёды дарагая. А даходы ў людзей, асабліва на вёсцы, зусім не тыя, як хацелася б.

Таму звычайна ў яе заказваюць рэчы на святы. Адзін з хадавых тавараў – наборы на хрэсьбіны. Тут кашуля, пялюшка, мяшочак на локан і зубок. Поўны камплект каштуе 80 рублёў. Калі для кліента гэта вельмі дарага, то майстрыха прапануе набор з пялюшкі і кашулі за 50 рублёў. Наборы яна аздабляе вышыўкай, якая аберагае дзіця.

Вясельныя ручнікі з вышыўкай ручной работы – адметная рэч для маладых. Тут важна зрабіць правільныя па сэнсе арнаменты. Часам кліенты не вельмі ў іх разбіраюцца і прапануюць тое, што гэтаму канкрэтнаму чалавеку не падыходзіць па значэнні. Рукадзельніца тлумачыць сэнс і прапануе лепшы варыянт для кожнага канкрэтнага чалавека.

Некаторыя заказваюць незвычайныя торбачкі ў падарунак замежнікам. Ільняныя ці з іншага матэрыялу торбы з арнаментам даўгавечныя, экалагічныя і вельмі незвычайныя ў якасці падарунка. Вераніка просіць за іх каля 35 рублёў.

Дзякуючы ўдзелу ў праекце Вераніка Шчуроўская, як і многія іншыя ініцыятыўныя людзі, атрымала падтрымку. Бізнес працуе і развіваецца, а яна можа зарабляць на занятку, які шчыра любіць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота забяспечаны Веранікай ШЧУРОЎСКАЙ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.11 | 29.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1061 | **2.1471** |
| Еўра | 2.3990 | **2.4227** |
| Злоты, 10 | 5.5670 | **5.6357** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1953 | **3.2013** |
| Грыўня, 100 | 7.5854 | **7.5941** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **21.11** | **28.11** |
| Еўра | 2.3880/2.4080 | **2.4100/2.4380** |
| Долар ЗША | 2.0950/2.1150 | **2.1350/2.1590** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **21.11** | **28.11** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,60 | **4,60** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 3,40 | **3,30** |
| Баклажаны, 1 кг | – | **–** |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,75 | **0,75** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,70 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 3,30 | **2,80** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,85 | **0,85** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **2,00** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,40 | **4,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **1,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,00 | **1,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,70 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **2,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Браў грошы на будаўніцтва дач, а траціў на свае патрэбы

МАЛАДЗЕЧНА

Следчы камітэт па Мінскай вобласці завяршыў расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 39-гадовага жыхара Маладзечна, якога абвінавачвалі ў крадзяжы грошай у 35 чалавек шляхам падману.

Па дадзеных следства, раней судзімы за маёмасныя злачынствы абвінавачаны ў 2016–2017 гадах быў зарэгістраваны як індывідуальны прадпрымальнік. Таксама з'яўляўся дырэктарам прадпрыемства, якое гандлявала драўнінай і прадукцыяй апрацоўкі драўніны.

Інфармацыю і кантакты аб дзейнасці фірмы ён размяшчаў у інтэрнэце, прапаноўваючы паслугі па нізкіх цэнах і выкананне замовы ў самыя кароткія тэрміны.

– Фігурант прапаноўваў выраб і ўстаноўку дачных дамоў, дамоў з бруса, лазняў, гаспадарчых пабудоў, пракладку электрычных і каналізацыйных сетак, рэканструкцыю будынкаў, бетонныя, будаўніча-мантажныя і іншыя работы на зямельных участках, – распавяла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Зацікаўленыя грамадзяне звязваліся з дырэктарам. Пры сустрэчы з кліентам абмяркоўваўся праект дома, яго мантаж і заключаўся дагавор будаўнічага падраду або куплі-продажы. Адной з умоў здзелкі з'яўлялася ўнясенне перадаплаты, 40-50% ад усёй цаны дома. Для бачнасці на ўчастак прывозілі нязначную частку матэрыялаў, як правіла, дастатковую для ўстаноўкі падмурка і ўзвядзення каркаса.

У далейшым тэрміны адцягваліся быццам з-за фінансавых цяжкасцяў, непаразуменняў з партнёрамі і па іншых прычынах, у выніку дагаворныя абавязацельствы не выконваліся. Атрыманыя ад заказчыкаў грошы абвінавачаны траціў на асабістыя патрэбы, а таксама ў ігральных установах.

Па крымінальнай справе дапыталі сведак, пацярпелых, правялі крыміналістычную экспертызу, сабралі доказы па ўсіх эпізодах ашуканскіх дзеянняў. Стала вядома, што падманутымі аказаліся і састарэлыя людзі. Шкода ад злачыннай дзейнасці склала больш за 284 тысячы рублёў.

Акрамя гэтага, абвінавачваны, з'яўляючыся службовай асобай, адказным за бухгалтарскі ўлік прадпрыемства, не плаціў падаткі на агульную суму ў памеры 75 тысяч рублёў.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікавалі як махлярства, учыненае паўторна ў асабліва буйным памеры і ўхіленне ад выплаты сум падаткаў, што пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры. Да абвінавачанага прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Крымінальная справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Расціслаў С. і Аляксей С. на судзе.

# Забітага два гады таму вілейчаніна пахавалі ў Касуце

ВІЛЕЙКА

**У вёсцы Касута ля Вілейкі пахавалі Андрэя Касяка, пошукі якога працягваліся два гады.**

Ураджэнец Вілейкі кіраўнік аддзела продажаў аднаго з мінскіх прадпрыемстваў **Андрэй Касяк** знік у лістападзе 2016 года.

Пошукі зніклага нічога не далі. Але праз некаторы час у Мінскім раёне быў знойдзены аўтамабіль «Аўдзі Q7» і пры яго аглядзе былі зафіксаваныя сляды забойства. У ходзе далейшай працы версія забойства атрымала пацвярджэнне. Праваахоўныя органы затрымалі **Расціслава С.** і **Аляксея С.**, якіх падазравалі ў забойстве Касяка.

Сёлета ў маі ў мінскім гарадскім судзе ішоў суд над Расціслаўам С. і Аляксеем С. Яны абвінавачваліся ў забойстве Андрэя Касяка і яшчэ шэрагу злачынстваў.

Судовая справа была беспрэцэдэнтнай – цела забітага так і не было знойдзенае.

Не знайшлі яго і да завяршэння суда, апошняе пасяджэнне якога адбылося 6 верасня.

Мінскі гарадскі суд прысудзіў 29-гадовага Расціслава С. да 23 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, 41-гадовага Аляксея С. – да 24 гадоў. Рашэнне суда пакуль не ўступіла ў законную сілу: пацярпелыя і абвінавачаныя падалі апеляцыі ў вышэйстаячыя інстанцыі.

Пошукі цела ахвяры не прыпыняліся. У лістападзе стала вядома, што ў ходзе спецыяльных мерапрыемстваў яго знайшлі недалёка ад Мінска.

Бацькі забітага ўпэўненыя, што новыя абставіны зробяць магчымым перагляд справы ў судзе.

Андрэя Касяка пахавалі 22 лістапада на могілках Касуты недалёка ад Вілейкі.

**Аддзел інфармацыі.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Мужчына знік з чыгуначнай станцыі ў Алёхнавічах

МАЛАДЗЕЧНА

Атрад «Анёл» шукае жыхара Маладзечаншчыны **Мельніка Васіля Васільевіча**.

68-гадовы мужчына жыве ў Алёхнавічах па адрасе: вуліца Лясная, дом 30.

23 лістапада ён выйшаў са свайго дома. Апошні раз мужчыну бачылі на чыгуначнай станцыі ў Алёхнавічах. Адсюль ён знік у невядомым накірунку, распавялі ў выратавальным атрадзе.

Дзе цяпер знаходзіцца мужчына, невядома. Па словах сваякоў, зніклы можа знаходзіцца ў Маладзечне, Мінску, Магілёве, паведамляюць у выратавальным атрадзе.

**Прыкметы:** рост 168-172, поўны, сівы, з блакітнымі вачыма.



**Асаблівыя прыкметы:** амаль няма зубоў. На перадплечны – татуіроўка ў выглядзе кінжала.

**Быў апрануты** ў шэрую шапку з футра, вянена бушлат, цёплую чорна-белую цяльняшку з доўгімі рукавамі, чорныя спартыўныя штаны, цёмныя боты.

Хто ведае нешта пра зніклага, просяць патэлефанаваць на нумары: **8 (025) 684-82-56**, **8 (029) 220-47-34** або **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Фура абганяла грузавік. Адзін з кіроўцаў загінуў на месцы

СМАРГОНЬ

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося 23 лістапада каля 16:00.

У выніку аварыі загінуў расійскі дальнабойшчык.

Кіроўца аўтапоезда «Мерсэдэс» рушыў па 158-м кіламетры дарогі Барысаў-Вілейка-Ашмяны.

Абганяў адзін грузавік і дапусціў сутыкненне з іншым. Гэта была сустрэчная «Сканія».

50-гадовы кіроўца «Сканіі» загінуў на месцы.

Другога 50-гадовага кіроўцу дэблакавалі выратавальнікі. Яго шпіталізавалі ў рэанімацыю.

На гэтым участку дарогі размешчаныя дарожныя знакі «Небяспечны паварот».

**Паводле ДАІ Гродна.**

## Кіроўца аўтобуса наехаў на пешахода на прыпынку

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля 18 гадзін у сераду, 21 лістапада.

23-гадовы кіроўца аўтобуса «МАЗ» аўтапарка №4 ехаў па маршруце №7.

На прыпынку «Праектныя майстэрні» высадзіў і пасадзіў пасажыраў, праз люстэрка праверыў, ці ўсе зайшлі, зачыніў дзверы, глянуў у левае люстэрка і пачаў рушыць улева.

Раптам адчуў штосьці ў раёне правага боку. Праз люстэрка ўбачыў, што там ляжыць чалавек. Ім апынуўся 49-гадовы маладзечанец. Той расказаў, што чакаў на прыпынку «сямёрку». Спачатку прыехала «шасцёрка», №7 – за ёй. Мужчына стаяў далей, таму бег у аўтобус.

Аднак калі падбег, дзверы ўжо зачыніліся. Ён пачаў барабаніць па дзвярах, а аўтобус ужо рушыў. І колам наехаў на нагу.

Пацярпелага з пераломам левай ступні шпіталізавалі ў траўматалогію, паведаміў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

**Аддзел інфармацыі.**

## З-за кароткага замыкання загарэўся аўтамабіль на Ашмяншчыне

АШМЯНЫ

Гараў Volkswagen Golf у Жупранах на тэрыторыі прыватнага домаўладання.

Паведамленне пра пажар паступіла 24 лістапада ў 11:23.

У выніку пашкоджаны маторны адсек, салон аўтамабіля. Мяркуюць, што прычына пажару – кароткае замыканне электраправодкі ў маторным адсеку.

**Паводле сайта МНС.**

## Мабільны тэлефон скралі ў жыхаркі Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА

47-гадовага жыхара Забалацця падазраюць у крадзяжы. 7 лістапада каля 16:30 ён выпіваў у кватэры 39-гадовай жыхаркі з той жа вёскі.

Мяркуюць, адтуль скраў мабільны тэлефон з картай памяці агульным коштам 104 рублі.

Крымінальную справу ўзбудзілі 22 лістапада па артыкуле «Крадзеж».

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**


На выставе восеньскіх малюнкаў.

# У ільянскай школе вучаць размаўляць па-беларуску і шанаваць гісторыю

ВІЛЕЙКА

**У гэтым навучальным годзе ў Ільянскай сярэдняй школе імя Адама Грымаця ладзяць інавацыйны праект «Укараненне этнакультурных тэхналогій для пашырэння і ўзбагачэння адукацыйнага асяроддзя школы».**

Разам з ільянцамі, у адпаведнасці з загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, у праекце ўдзельнічаюць 26 школ з розных абласцей нашай краіны

## Паразмаўляй са мной па-беларуску

Інавацыйны праект накіраваны на фарміраванне чалавека, які будзе размаўляць па-беларуску, шанаваць сваю этнакультурную спадчыну.

**Такія станоўчыя вынікі могуць адбыцца дзякуючы выкарыстанню ў праекце этнакультурных тэхналогій і педагагічнага досведу.**

Педагогі ў праекце глядзяць на дзіця не толькі як на вучня, а і як на чалавека, якога трэба падрыхтаваць да захавання і перадачы духоўна-маральнай і культурнай спадчыны. Чалавека, які ўсведамляе сваю адказнасць за лёс Айчыны і свайго народа.

## Восеньскія святы – у межах праекта

На пачатку лістапада ва ўсіх 26 школахудзельніцах правялі адзіны дзень інавацыйнага праекта. Вучні і педагогі нашай школы завіталі на свята «Восеньская этнакультурная гасцёўня».

Вучні 6 класа разам з кіраўніком школьнага музея «Ільянскія далягляды» **Наталляй Шабуняй** падрыхтавалі прэзентацыю і выставу прылад працы беларусаў у актавай зале для ўсіх ахвотных.

Далучыліся да праекта і наведнікі школьных гурткоў. Настаўніца пачатковых класаў **Тацццяна Максімовіч** разам са сваімі гуртkoўцамі прадставіла выставу малюнкаў «Мастачка Восень зноў малюе…».

Вучні другога і чацвертага класаў з настаўнікамі **Ліліяй Тумашэвіч** і **Святланай Філістовіч** прадэманстравалі свае творчыя здольнасці ў літаратурнай замалёўцы «Свята хлеба». На мерапрыемства запрасілі вучняў першых-чацвертых класаў.

Літаратурная кампазіцыя «Восень – пагод восем» стварыла для вучняў шостых-адзінаццатых класаў непаўторную атмасферу краязнаўчасці. А дапамагалі вучням у гэтай справе настаўнікі беларускай мовы і літаратуры **Таццяна Уладыка**, **Аксана Шушкевіч**.


Вучні разглядаюць экспанаты школьнага музея.

## І зноў у зале гучала беларуская мова

Наш праект заснаваны на адзінстве ўсіх удзельнікаў адукацыйнага працэсу, а гэта значыць, што ў многія мерапрыемствы ўключаюцца і бацькі.

Таму на бліжэйшым бацькоўскім сходзе вучні пачатковых класаў разам з настаўнікамі зладзілі справаздачны канцэрт па праекце. І зноў у актавай зале школы гучала родная мова: дзеці спявалі беларускія песні, чыталі вершы беларускіх паэтаў.

Такім чынам, мы яшчэ раз пераканаліся, што выкарыстанне этнакультурных тэхналогій у школьнай адукацыі садзейнічае адраджэнню нацыянальных культурных традыцый – фальклору, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, народных промыслаў і рамёстваў, захаванню і развіццю роднай мовы.

Педагогі стараюцца ствараць ўмовы для фарміравання ў вучняў пачуцця нацыянальнага гонару, усведамлення імі сваёй самабытнасці і непаўторнасці як беларусаў, а таксама паважлівых адносін да прадстаўнікоў іншых культур.

**Алена МІХАЛЁНАК,**
**намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаця. Фота аўтара.**


Мастацкая школа прымае падарункі. Першы злева – Васіль Таркан.

# «З-за аддзялення ДПМ у музвучылішчы Карпенка тэлефанаваў міністру»

## Што прыгадвалі на саракагоддзі мастацкай школы

МАЛАДЗЕЧНА

**16 лістапада ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі мастацкая школа Маладзечна адзначала 40-годдзе. Тут зладзілі выставу «У свеце дзяцінства» і правялі святочную імпрэзу.**

Пачалі з гісторыі. Прыгадалі, як 40 год таму жыхар Маладзечна педагог **Васіль Таркан** захацеў стварыць у горадзе мастацкую школу. Кіраўніцтва горада падтрымала ініцыятыву, вырашыла – школе быць. Пачыналі з двух пакойчыкаў на Будаўнікоў і дзвюх груп навучэнцаў. Потым былі класы ў паўпадвальных памяшканнях, у падвальчыку. І нарэшце – той будынак, дзе школа займаецца сёння.

– Памяшканне выдзелілі, але ж савецкі час, дэфіцыт, мэблі не дастаць, – прыгадваў на ўрачыстасці першы дырэктар мастацкай школы Васіль Таркан. – Паехалі за мэбляй аж у Ленінград. Адразу не хацелі даваць, але даведаўшыся, што мы з партызанскай Беларусі, далі.

На гэтым Васіль Таркан не спыніўся. Добра калі ёсць мастацкая школа. Але ж хацелася, каб дзеці, здольныя да выяўленчага мастацтва, маглі недзе вучыцца і пасля яе. Ён звярнуўся да тагачаснага мэра Маладзечна **Генадзя Карпенкі**. Той патэлефанаваў міністру адукацыі – і ўсё атрымалася. Аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і сёння працуе ў музкаледжы імя Агінскага. Школа выцінанкі **Вікторыі Чырвонцавай** вядомая ў Беларусі. А на калідорах музкаледжа, адзначыў Васіль Таркан, цяпер сапраўдны музей творчых прац навучэнцаў.

Васіль Таркан працаваў дырэктарам мастацкай школы больш за 30 год. Побач з ім юных мастакоў гадавалі **Генадзь Селядзец**, **Мікалай Аўчыннікаў**, **Юры Герасіменка**, **Васіль Лазоўскі**, Вікторыя і **Наталля Чырвонцавы** і шмат іншых таленавітых педагогаў. Па словах вядучай, калі яна рыхтавала спіс былых супрацоўнікаў, вучнёўскі сшытак у клетачку спісала напалову.

– У мастацкую школу я прыйшла маладым педагогам, – прыгадала на імпрэзе выкладчык Наталля Чырвонцава. – Не адразу было лёгка. Бо адна рэч умець маляваць самой, іншая – перадаць уменні дзецям. Дзякуючы кіраўніку і добраму калектыву ў мяне ўсё атрымалася. Менавіта Васіль Таркан запрасіў выкладаць Вікторыю Чырвонцаву. А гэта была пэўная рызыка – яна не мела мастацкай адукацыі. Падчас маёй працы ў школе была свабода, не было руціны, якая ёсць у настаўнікаў сёння.

Госця з Вілейкі дырэктар Цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч** заўважыла, што, гледзячы на працы юных мастакоў, адчуваеш гонар за тое, што ў нашым рэгіёне столькі талентаў.

– Мастацкая школа фарміравалася на маіх вачах, – распавёў мастак і педагог **Мікола Аўчыннікаў**. – Цяпер яна штогод папаўняе шэрагі гімназіі-каледжа мастацтваў, дзе я працую.

За 40 год школа зрабіла 37 выпускаў. Сярод выпускнікоў – фатографы, рэстаўратары, педагогі. Як адзначыла адна з выступоўцаў, выпускнікам мастацкай школы можна было б прысвяціць кожную вечарыну.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03**; вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ВІНШАВАНКА

**Жанне ГОРБАНЬ з Маладзечна**



**Віншуем нашу абаяльную калегу з адметным днём нараджэння!**

І з гэтай нагоды жадаем здароўя, радасці ў вачах, усмешак, гармоніі, удачы. Няхай лёс радуе навізной пачуццяў і ўражанняў. Новых табе паваротаў, і толькі прыемных, патрэбных сустрэч на тваім шляху, пастаянных уздымаў і працвітання ва ўсіх яго сэнсах!

*Імклівы час*
*мацней у руках трымай ты,*
*Не паддавайся ні нягодам,*
*ні хваробам.*
*Няхай заўжды з табой*
*сябруе шчасце,*
*І кожны дзень твой*
*будзе толькі добрым.*

**Калегі з «Рэгіянальнай газеты».**

**Таццяне Мікалаеўне ГЛІНСКАЙ**



Любая наша матуля і бабуля, віншуем цябе з днём народзінаў! Жадаем моцнага здароўя і даўгалецця.

**Твае дзеці і ўнукі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• DACIA DUSTER. 2010 г.в., 1,6 газ-бензін, чорны, 2 камплекты гумы, торг пры аглядзе. Т. (8-029) 5060612.*

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в., 1,8 бензін. У добрым стане. Т. (8-029) 5689198.*

• Рэно-19, 1992 г.в., 1,4 л., 1200 руб, торг. Т. (8-029) 5069521.*

• ФВ-Транспарцёр Т2, 1991 г.в., 1,6Д, МКПП, белы, 3000 руб., торг. Т. (8-029) 5214932.*

• Форд-Транзіт, 1997 г.в., 2,5 ТД, пасажырскі, 7950 рублёў, торг. Абмен. Т. (8-029) 5648002.*

• Электраскутар Bosch. Новы. Нямецкая якасць. Запас ходу да 70 км. Пакупніку падарунак. Т. (8-029) 1383623.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Колы з дыскамі Аўдзі А-6 R16 205*205 зіма, 4 шт., каўпакі, дыскі R 13, Опель, 4 шт. Т. (8-029) 7700689.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

Вечерний Бобруйск

Вашы аб'явы па продажы ТРАНСПАРТУ прачытаюць і ў газеце «Вечерний Бобруйск». Адна цана – дзве газеты!

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### МЯНЯЮ

• Пасат-3 на Жыгулі. Альбо прадам. Т. Вэлком (8-044) 7125657.*

## НЕРУХОМАСЦЬ



### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 50 кв. м. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на другім паверсе па вул. Вольная альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Цана дагаворная.Т. (8-025) 5040563, (8-029) 8707275.

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 70 кв.м, на 3 паверсе. Перапланіроўка, рамонт, мэбля. Т. (8-029) 6632777.*

• Садовы ўчастак у Ласях (кааператыў «Брыльянт»), домік блочны, хлеўчык, сад, нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

### ІНШАЕ

• Гандлёвы павільён на гарадскім рынку ў Вілейцы плошчай 25 кв. м. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 5559694.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Персанальныя насценныя квартальныя календары на 2019 год з вашым фота – 8 руб., з відамі Смаргоні – 6 руб. Якасная ксеракопія А4, А3 (і каляровая) – без чаргі. Фота на майку-кубак – 9 руб. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 «НгС». Т. (8-01592) 31570.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У вас ёсць магчымасць зрабіць прыемнае родным і блізкім – размясціць віншаванне на старонках нашай газеты!**

Кошт – ад 2,50 рубля.

**Наш адрас:**
г. Маладзечна,
вул. Вялікі Гасцінец, 143,
офіс 518 (ГЦ «Тройка»)
**Тэл. (8-0176) 53-78-04**
**(8-029) 676-84-20**
**(8-029) 573-28-47**

## У Мінскай вобласці ад 25 лістапада падаражэў праезд

У Маладзечне ад 25 лістапада падаражэў праезд. Цяпер білет каштуе на пяць капеек больш.

Квіток на аўтобус абыдзецца пасажырам не ў 50 капеек, а 55.

**Аддзел інфармацыі.**

## ДАІ праводзіць дзень бяспекі

30 лістапада дзяржаўтаінспекцыя праводзіць Адзіны дзень бяспечнага дарожнага руху пад дэвізам «Зіма на колах – не будзе заносаў!».

Акцыю праводзяць, каб падрыхтаваць аўтамабілі да зімы.

**Міліцыянеры грамадскай бяспекі будуць выступаць у арганізацыях, сярод аўтааматараў, у аўташколах. Падчас гутарак раскажуць пра аварыйнасць на дарогах цягам года, прычыны і ўмовы дарожна-транспартных здарэнняў.**

Арганізуюць праверкі службовых і спецыяльных транспартных сродкаў прадпрыемстваў перад тым, як выязджаюць на лінію, і калі вяртаюцца ў гараж.

Асаблівую ўвагу звернуць на тое, ці маюць аўтамабілі зімовыя шыны.

## ДАІ шукае сведкаў здарэння

26 кастрычніка каля 21:20 на 77-м кіламетры дарогі Мінск-Маладзечна-Нарач здарылася аварыя.

34-гадовы кіроўца аўтамабіля «Альфа-Рамэа-Джульета» рушыў у бок Нарачы.

**Кіроўца наехаў на 30-гадовага пешахода, які ішоў у спадарожным кірунку. Пешаход быў без флікера. Яго шпіталізавалі ў маладзечанскую бальніцу, дзе 1 лістапада памёр, так і не прыходзячы ў свядомасць.**

Просім сведкаў і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ ў Маладзечне па вуліцы Дудко, 1-18. Або патэлефанаваць на нумары: (80176) 74-53-40, 74-53-43 або 102.

## Пешаходы, купіце ўжо флікер

У зімовы перыяд года, калі рана цямнее, часцей адбываюцца ДТЗ з удзелам пешаходаў.

Пераважна такія здарэнні адбываюцца таму, што ў пешаходаў няма флікера, пераходзяць дарогу ва неўстаноўленых месцах.

У Мінскай вобласці асноўная прычына смяротнасці на аўтадарогах – пешаходы парушаюць правілы дарожнага руху. Сёлета па гэтай прычыне адбылася 91 аварыя, у якіх загінулі 28 чалавек, а 64 атрымалі раненні.

Па віне нецвярозых вадзіцеляў адбылося 26 ДТЗ, у якіх загінулі 14 чалавек, 12 раненыя. Усе ДТЗ адбыліся ў цёмны час сутак, пешаходы не мелі флікераў.

Кіроўцам складана своечасова заўважыць пешахода, які пераходзіць дарогу ў неналежным месцы і без флікера. Асабліва пры неспрыяльным надвор'і немагчыма своечасова адрэагаваць і папярэдзіць наезд.

Пешахода з флікерам пры блізкім святле фараў відаць за 140-150 метраў. У цемнаце небяспека трапіць пад колы павялічваецца ў дзевяць разоў.

У Маладзечанскім раёне сёлета адбылося 16 ДТЗ з удзелам пешаходаў і раварыстаў. У гэтых здарэннях тры чалавекі загінулі, 13 атрымалі пашкоджанні.

Чатыры здарэнні адбыліся з удзелам дзяцей.

**Пешаходы і веласіпедысты, купіце сабе флікеры і прымацуйце на верхняе адзенне – каб яны былі бачныя з усіх бакоў.**

Паважаныя бацькі! Паклапаціцеся пра бяспеку дзяцей. Абавязкова прымацуйце флікер да партфеля і курткі дзіцяці. Пастаянна расказвайце юным удзельнікам дарожнага руху пра бяспеку.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага АДАІ.**



Фота AutoWC.ru

Паклапаціцеся загадзя, каб у вашым аўто ўсё было ў парадку.

# Прачытайце, што раіць ДАІ – гэта можа выратаваць жыццё

**Акцыю «Жыццё даражэй за шыны!» праводзіць дзяржаўтаінспекцыя ад 26 лістапада да 6 снежня.**

Паводле Правілаў дарожнага руху (ПДР), ад 1 снежня да 1 сакавіка механічныя транспартныя сродкі павінны быць абсталяваныя зімовымі шынамі. Зімовыя шыны павінны быць на ўсіх колах і адпавядаць патрабаванням часткі 2 пункта 25 дадатку да ПДР.

За невыкарыстанне зімовых шын прадугледжаныя папярэджанне або штраф да 0,5 базавай велічыні (12,25 рубля).

Зімовыя шыны, прызначаныя для язды на абледзянелай ці заснежанай дарозе, маркіраваныя знакам у выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі і сняжынкай унутры. Могуць быць размешчаныя знакі «M+S», «M&S», «M.S», «M S» ці «All seasons». У час выкарыстання на пакрыцці астаткавая вышыня малюнка пратэктара павінна быць да 4 мм.

Калі на транспарце ёсць зімовыя шыны, але вышыня малюнка пратэктара менш за 4 мм, за парушэнне пагражае папярэджанне або штраф да адной базавай (24,50).

**Калі цягам аднаго года ДАІ зловіць з парушэннямі правілаў эксплуатацыі аўтамабіля, пагражае штраф ад дзвюх да пяці базавых (ад 49 да 122,50 рубля).**

Для прычэпаў норма астаткавай вышыні малюнка аналагічная з нормай для шын транспарту, у счэпцы з якім ездзіць.

Шыну лічаць непрыдатнай, калі з'явіўся адзін індыкатар зносу, размешчаны на дне канаўкі пратэктара пры раўнамерным зносе.

Пры нераўнамерным непрыдатныя шыны, калі з'явіліся два індыкатары ў кожным з двух сячэнняў.

### Ад аварыі засцерагуць не толькі шыны

Цалкам спадзявацца толькі на адны шыны няправільна. Неабходна трымацца бяспечнай хуткасці з улікам умоў дарогі, пазбягаць неабдуманых дзеянняў. Аўтамабіль на шынах з зімовым пратэктарам нашмат больш устойлівы і лепш трымае дарогу.

Кіроўцу варта паклапаціцца і пра іншыя рэчы:

- пераканацца ў нармальнай працы абагравальнікаў шкла, дворнікаў, тармазоў;
- праверыць узровень антыфрызу і заліць незамярзайку ў бачок;
- апрацаваць замкі і петлі дзвярэй, капота, багажніка сіліконавай змазкай;
- праверыць стан запаскі, дамкрата, буксіровачнага троса і знака аварыйнага прыпынку;
- калі ёсць сумненні ў надзейнасці акумулятара, лепш яго падзарадзіць ці замяніць перад маразамі;
- калі своечасова не памяняць паліўны фільтр, то ў першы ж істотны мароз рухавік можа стаць.

**Памятайце, летнія шыны пры мінусавай тэмпературы неэфектыўныя, аўтамабіль можа паводзіць сябе непрадказальна.**

• У галалёдзіцу тармазны шлях павялічваецца ў некалькі разоў.

• Перыядычна правярайце спраўнасць тармазной сістэмы і рулявога кіравання.

• Зношаны пратэктар шын пакідае вам мала шанцаў на зімовай дарозе.

• Выбірайце правільныя дыстанцыю і хуткасць.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.**

## Грамадзянам, якія плацяць падаткі на нерухомасць і плацяжы за зямлю

Плаціць у бюджэт маёмасныя плацяжы фізічныя асобы за 2018 год павінны не пазней за 15 лістапада гэтага года. Сюды ўваходзяць зямельны падатак, арэндная плата за зямлю, падатак за нерухомасць.

Калі па нейкіх прычынах грамадзяне не сплацілі маёмасныя плацяжы ва ўстаноўленыя тэрміны, прапануем тэрмінова іх сплаціць. Такім чынам вы праяўляеце грамадзянскую адказнасць.

За несвоечасовую выплату маёмасных плацяжоў прымяняюць адказнасць у адпаведнасці з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Пры нявыплаце плацяжоў іх запатрабуюць праз суд. Пры гэтым адна з мер па забеспячэнні выплаты – часовае абмежаванне правa даўжніка выязджаць за межы краіны і кіраваць транспартам.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

## Змяніліся стаўкі адзінага падатку

Стаўкі для ІП і фізічных асоб у Мінскай вобласці змяніліся.

Гэта рэгулюе рашэнне №37 Мінскага абласнога Савета дэпутатаў ад 12 ліпеня.

Стаўкі адзінага падатку зменены па асобных відах дзейнасці для індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб.

Рашэнне апублікаванае на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале pravo.by 17 лістапада. У сілу ўступіла ад 18 лістапада.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**



Цукаты з гарбузоў, горкі перац, зімовы часнок з польскіх часоў – пра гэта расказвае ўдзельнік акцыі Ганна Краўчонак. На фота – яе 92-гадовая мама Ядвіга Адамаўна, якая жыве ў вёсцы Забар'е Ільянскага сельсавета.



Валянціна Мамай даглядае пухнатых шчанюкоў.



Персікі ў Маладзечне паказала Ірына Найдзіч.



Лямпа з гарбуза Наіны Лычаўкі.



Пра ежу з печы з бабуліным сакрэтам расказала Наталля Вяжэвіч.

# Галасуйце за пераможцу акцыі «Супергаспадар»

**Усяго ў акцыі ўдзельнічаюць пяць гаспадынь.**

Кожная з іх падзялілася сваёй гісторыяй гаспадаркі. Прагаласаваць за самага вартага, на ваш погляд, удзельніка можна на нашым сайце rh.by. Галасаванне будзе доўжыцца ад 22 лістапада да 13 снежня. 14 снежня мы абвесцім вынікі акцыі.

Пазнаёмцеся бліжэй з удзельнікамі, каб зрабіць свой выбар – за каго галасаваць.

**Удзельнік №1**
**Ірына Найдзіч.**
**Персікі ў Маладзечне**

Здымкам экзатычнага фрукта падзялілася **Ірына Найдзіч**.

«Вось такія прыгожыя і смачныя персікі выраслі на завулку Ліцейным у Маладзечне ў пляменніка.

Фота зробленае сёлета ў ліпені».

**Удзельнік №2**
**Наталля Вяжэвіч.**
**Ежа з печы з бабуліным сакрэтам**

Сакрэтам ежы са смакам дзяцінства падзялілася **Наталля Вяжэвіч**.

«Памятаю, у часы свайго дзяцінства прачынаешся, бяжыш босымі нагамі па халадняватай падлозе проста да стала, адкідваеш край сурвэткі, а там… А там заўсёды чакаў вось такі сняданак, прыгатаваны любай бабуляй.

І не было нічога смачнейшага за гэтыя вясковыя сняданкі!

Я, вядома, яшчэ не бабуля, але калі мы ўсёй сям'ёй ездзім на дачу, стараюся папесціць сваіх дамашніх вось такімі смачнасцямі, тым больш захавалася ў нас яшчэ руская печ. Мая сяброўка, калі прыязджае ў госці, кажа, што такіх смачных бліноў больш нідзе не ела. А чаму яны такія смачныя? Ды таму, што я гатую з бабуліным сакрэтам. У чым жа сакрэт? А сакрэт у тым, што гатаваць трэба з душой і добрым настроем!

Я настаўніца рускай мовы і літаратуры ў Маладзечне. Мама дваіх дзяцей: у мяне двое сыноў 7 і 15 гадоў. Люблю праводзіць час са сваёй сям'ёй: разам ходзім у кіно, ездзім на дачу, падарожнічаем.

Ёсць у сям'і і свае традыцыі. Я лічу, што традыцыі – гэта тое, што аб'ядноўвае сям'ю».

**Удзельнік №3**
**Наіна Лычаўка.**
**Лямпа з гарбуза**

**Наіна Лычаўка** з Рабуні Вілейскага раёна даслала здымак незвычайнага вырабу.

Наіна працуе настаўнікам у школе. Любіць вырошчваць розную гародніну. У тым ліку гарбузы. З іх атрымліваюцца разнастайныя вырабы.

«Гарбуз – не толькі смачны і карысны прадукт, а таксама матэрыял для вырабу, напрыклад, настольнай лямпы», – дзеліцца жанчына.

**Удзельнік №4**
**Ганна Краўчонак.**
**Цукаты з гарбузоў, горкі перац, зімовы часнок з польскіх часоў**

Сакрэтамі ладнай гаспадаркі сваёй мамы з вёскі Забар'е Вілейскага раёна падзялілася **Ганна Краўчонак**.

«Вось і мы цэлымі сямействамі Краўчонкаў-Северыных вырашылі, нарэшце, паўдзельнічаць у акцыі «Супергаспадар». Сёлета, нягледзячы на засушлівае лета, у нас вырас нядрэнны ўраджай садавіны і агародніны. Вялікая заслуга ў гэтым і нашай 92-гадовай мамачкі, **Ядвігі Адамаўны Краўчонак**, якая жыве ў вёсцы Забар'е Вілейскага раёна Ільянскага сельсавета.

На бацькоўскім участку мы ўсё і вырошчваем, пачынаючы з пятрушкі і кропу і заканчваючы кукурузай і кветкамі. Мы ў мамачкі дзве дачкі, ужо пенсіянеркі. Сястра **Вера** адпрацавала лагапедам, я культработнікам. Яна з сямействам прыязджае ў вёску з Мінска, я з сынам – з Ушачаў Віцебскай вобласці.

Стараемся прыязджаць кожны тыдзень, а да нашага прыезду мамачка і травічку вырве, і градку хоць з кубачка палье.

Пагэтаму яе вялікая заслуга ў тым, што ў нас анічога не засохла. З вадой для паліву праблем няма – на двары студня з помпай. У гэтым годзе, як ніколі, урадзілі гарбузы, часнок зімовы і горкі перац.

Насенне гарбузоў і перцу прывезла ад сватоў з Украіны. Пад кожнае гарбузовае каліва клала па вядру перагною, перамешанага з попелам, на працягу росту палівала настоенай вадой з каравякам і травой 10-дзённай вытрымкі 2-3 разы за сезон.

Спадабалася з гарбузоў рабіць цукаты: наразаюцца лустачкі гарбуза, засыпаюцца цукрам і пакідаюцца на ноч. Потым праварваюцца хвілін пяць, астуджаюцца, так трэба зрабіць разы два ці тры. У сіроп дадаюцца некалькі скурак чырвонага яблыка і палова лімона. Сіроп потым зліваецца, а цукаты сушацца ў духоўцы ці сушылцы. Смачна, карысна і не застаецца паху гарбуза.

Горкі перац устойлівы да розных захворванняў, вельмі вынослівы, апошні выкапала з парнічка 11 лістапада. Яго можна садзіць адразу і ў кватэры, а вось пры перасадцы з градкі ў дом стручкі толькі даспяваюць, а сама расліна не выжывае.

Зімовы часнок кожны год традыцыйна вырастае вялікі ў Забар'і, у мяне на Віцебшчыне, і ў дачушкі ва Украіне, Чаркасах.

Гатунак вядзецца яшчэ з польскіх часоў. Наш бацька, **Міхаіл Васільевіч**, у канцы 30-х гадоў вучыўся ў Вільні на садавода-агародніка. Раздабыў гэты гатунак, нават і назву не ведаем.

Асаблівых агранамічных прыёмаў няма: саджу нават на адным і тым жа месцы да трох гадоў, перад пасадкай у радкі ўношу перагной, попел, на працягу ўсяго росту і выспявання тры-чатыры разы абсыпаю попелам ад шкоднікаў, паліваю падкормкай з травы і каравяку. Увогуле, мы не карыстаемся гноем, а робім падкормку з травы і каравяку. У вёсцы засталася ўсяго дзве кароўкі, ёсць пакуль куды схадзіць за падкормкай. Абрываю кветаножкі, пакідаю толькі некалькі штук, каб выспелі «дзеткі», высаджваю іх потым, каб крыху часнок абнавіць.

Сёлета выбірала часнок у канцы ліпеня, адразу аніколі не абразаю пер'е, карэнне: ён даспявае, добра вылежваецца, высушваецца. У сярэднім кожная галоўка заважыла па 70 грамаў, але сустракаліся некаторыя і пад 100.

На заканчэнне хочацца сказаць вялікі дзякуй нашым бацькам за тое, што перадалі любоў да зямлі, да нялёгкай сялянскай працы, а мы ў сваю чаргу перадаём такую ж любоў нашым дзецям і ўнукам.

**Удзельнік №5**
**Валянціна Мамай.**
**Пухнатыя шчанюкі з Вілейкі**

«Сенбернары – добрыя і спакойныя сабакі. Нягледзячы на гэта, славяцца як якасныя ахоўнікі дома. Натуральна, для варты і завялі калісьці Аду.

Сёлета 11 мая ў сабакі маёй дачкі **Людмілы Бяўзо** нарадзіліся сем здаровых шчанюкоў пароды сенбернар.

Для злучкі іх маці – альпійскага сабаку Адэліну – вазілі ў Мазыр. Як і Ада, бацька шчанюкоў мае выдатную радаслоўную. Ён носіць ганаровую мянушку Назарэцянін Сігурд Вінцэнт.

Адзе цяпер чатыры гады, на фота яе першынцы. Усяго нарадзіліся тры дзяўчынкі і чатыры хлопчыкі. Пяцярых прадалі. А Дамір і Дэні чакаюць сваіх гаспадароў. Імёны для шчанюкоў абіралі ўсёй сям'ёй.

А яшчэ ў дачкі шыкоўны сад і агарод: яблыкаў, груш процьма. У мяне самой на Вілейшчыне ў вёсцы Вайдзені добра ўрадзілі бульба, морква, буракі…».

**Аддзел інфармацыі.**

# Прайшоў ГУЛАГ, дзе акампаніраваў Лідзіі Русланавай

## Маладзечанка прыгадвае кампазітара кіраўніка калектыву «Спадчына» Іосіфа Сушко

**Напярэдадні 90-гадовага юбілею самадзейнага кампазітара, заслужанага работніка культуры Беларусі, кіраўніка маладзечанскага музычнага калектыву «Спадчына» пра яго «Рэгіянальнай газеце» распавяла Лілія Сцяпная, удзельніца калектыву, настаўніца музыкі гімназіі №3.**

МАЛАДЗЕЧНА

– Так атрымалася, што пра Іосіфа Сушко я ведала з дзяцінства, – кажа маладзечанка. – Ён жыў у Варапаеве, а я ў вёсцы Ваўкалата. Гэта на Віцебшчыне. У Варапаеве ў Іосіфа Фаміча быў ансамбль, з якім ён прыязджаў выступаць у Ваўкалату. Каб ехаць назад пасля канцэрта, не хапала бензіну ў аўтобусе. Мой бацька тады дапамог Іосіфу Фамічу.

### Падчас канцэрта на вачах дырыжора бачылі слёзы

Пасля лёс прывёў дзяўчыну ў Маладзечанскае музвучылішча (цяпер музкаледж імя Агінскага). Іосіф Сушко якраз тады, на пачатку 1970-х, працаваў тут, выкладаў аранжыроўку і ўжо кіраваў «Спадчынай».

У 1975 годзе Лілія Сцяпная здавала дзяржэкзамен – дырыжыравала вакальнай групай. На экзамене прысутнічаў Іосіф Сушко. Ён запрасіў дзяўчыну да сябе ў калектыў.

– Па натуры Іосіф Фаміч быў вельмі ўспрымальны, запальчывы, гэта праяўлялася і на рэпетыцыях, і на канцэртах, перад якімі ён заўсёды вельмі хваляваўся. Калі дырыжыраваў падчас песні «Хлеб – усяму галава», артысты звычайна адводзілі вочы ўбок, бо бачылі слёзы на вачах дырыжора, – прыгадвае жанчына.

Неяк настаўніца была на курсах ва ўніверсітэце культуры. Там выкладчык узгадаў Іосіфа Сушко і сказаў, што гэта адзіны чалавек у Беларусі, які працуе з аўтэнтычным фальклорам.

### На канцэртах прадумана ўсё

Па словах Лiлii Сцяпной, калі «Спадчына» выходзіць на сцэну, такое адчуванне, што бачыш кадр з кінафільма. Настолькі ўсё прадумана і арганічна аб'яднана: і песня, і музыка, і фальклорныя матывы, і харэаграфія. Асабліва гэта бачна ў вакальна-харэаграфічных кампазіцыях «Талака», «Купалле», «Хрэсьбіны», «За ваколіцай», «Беларускі лянок».

У 2003 годзе выдалі аўтарскі зборнік і кампакт-дыск «Спявай, маё сэрца, спявай». Кнігу з дарыльным надпісам кіраўнік уручыў кожнаму ўдзельніку свайго ансамбля. А Ліліі Сцяпной падпісаў кнігу, як суаўтару. Песню «Спявай, маё сэрца, спявай» яны напісалі разам.

### Каб набыць гармонік, бацька прадаў карову

Ведае жанчына і пра няпросты лёс свайго настаўніка. Да музыкі хлопчык цягнуўся з дзяцінства. Бацька нават прадаў карову, каб набыць сыну гармонік. Хлопчык сам, не ведаючы музычнай граматы, навучыўся іграць. Праўда, саромеўся. І калі да бацькоў прыходзілі госці, то іграў, схаваўшыся за фіранку.

Калі пачалася Другая сусветная, на фронт хлопца не ўзялі, бо быў зусім малады. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, іграў на ўсіх святах.

### Для чаго трэба гармонік без гуку

За тое, што іграў пры немцах, аб'явілі ворагам народа і накіравалі ў ГУЛАГ.

**Там ён пазнаёміўся са спявачкай Лідзіяй Русланавай і нават акампаніраваў ёй на канцэрце. Пасля рэабілітацыі і вяртання дамоў, перапісваўся з ёй.**

У ГУЛАГу музыканта любілі. Нават зрабілі для яго самаробны гармонік. Інструмент быў бязгучны, але паддыходзіў для таго, каб размінаць пальцы.

– Ведаю, што літаральна над кожным гукам Іосіф Фаміч мог працаваць начамі, – дзеліцца Лілія. – Ён мог напісаць песню адмыслова пад нейкага саліста. Напрыклад, «Гімн кахання» стварыў спецыяльна для **Ліліі Будо**, а «Ночку летнюю» – для **Іны Ахполавай**.



Гармонік Іосіф Сушко палюбіў з дзяцінства.

Фота забяспечанае Ліліяй СЦЯПНОЙ.

### Бязмежна таленавіты, сціплы і просты

Не ўсе ў ансамблі былі прафесійнымі музыкантамі. Большасць удзельнікаў працавала на прадпрыемствах і ва ўстановах Маладзечна. Для іх усіх кіраўнік быў і настаўнікам па вакале.

– Іосіф Фаміч быў сціплы, просты, бязмежна таленавіты. А яшчэ не любіў, калі мы са сваёй музычнай адукацыяй «вытыркаліся» на рэпетыцыях, – прыгадвае жанчына.

Лілія Сцяпная прызнаецца, што для яе Іосіф Сушко – настаўнік па жыцці. Нават цяпер яна ў яго вучыцца. У праграме чацвертага класа па музыцы ёсць тэма «Музычная культура Беларусі». На гэтых уроках настаўніца абавязкова паказвае вучням відэа з выступленнем «Спадчыны», дае слухаць аўдыёзапісы.

### Ушануюць канцэртам і вершамі

Два сыны Іосіфа Фаміча сталі прафесійнымі музыкантамі. Адзін да нядаўняга часу працаваў у Маладзечанскім Палацы культуры. Кіраваў студыяй «Жывы гук». Цяпер пераехаў у Мінск, але працягвае працаваць па спецыяльнасці. Другі сын у Чысці. Таксама кіруе вакальным калектывам.

Пасля смерці Іосіфа Сушко ў 2016 годзе калектывам кіруе **Яўген Гарчанін** – вучань Іосіфа Фаміча, які працаваў хормайстрам.

30 лістапада ў Маладзечанскім Палацы культуры «Спадчына» ладзіць канцэрт, прысвечаны памяці свайго былога кіраўніка. А Лілія Сцяпная сваю павагу і захапленне Настаўнікам паклала ў вершы:

*Горача радзіму, родны край люблю.*
*Хоць ужо з маленства шмат што перажыў.*
*Але чэрствым сэрца ад таго не стала,*
*Родную зямельку песняй усладжала.*

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як склаўся лёс настаўніцы, што працавала ў Крэве ў 1930-я гады

СМАРГОНЬ

**Я трымаю ў руках пажоўклы фотаздымак, зроблены ў пачатку далёкіх трыццатых гадоў. На ім – вучаніцы аднаго з класаў Крэўскай школы са сваёй настаўніцай падчас вылазкі на прыроду.**



Ірэна Аляхновіч (Бандаровіч) са сваімі выхаванкамі падчас вылазкі на прыроду. 1930-я гады.

На першы погляд, нічым адметным здымак не вылучаецца: звычайны дзень, звычайныя дзеці са звычайнымі бесклапотнымі тварамі. Але калі паглядзець на здымак з вышыні сённяшняга дня, калі прасачыць за далейшым жыццём дзяўчатак і іх настаўніцы, то можна зразумець: перад табой – кніга лёсаў цэлага пакалення.

### Такія розныя лёсы дзяўчат з фотаздымка

**Зіна**, разумная і бавая дзяўчынка, скончыць Ашмянскую гімназію, а ў 1942 годзе будзе вывезена ў Германію на прымусовыя работы. Пасля вайны знойдзе прытулак недзе ў Англіі.

**Ніна** загіне ў час вайны. Бацьку **Зоські** пасляваенныя ўлады абвінавацяць у супрацоўніцтве з немцамі, што не лепшым чынам адаб'ецца і на лёсе яго дачкі.

**Прыгажуня Стаська выйдзе замуж за рускага, які прыедзе сюды раскулачваць яе бацьку і ствараць калгасы. У іх народзіцца сын, якога ўсе будуць ведаць як паэта Уладзіміра Някляева.**

Сціплая **Шура** звяжа свой лёс з настаўнікам **Пятром Грынкевічам**, чалавекам, які прысвяціў сваё жыццё вывучэнню мінуўшчыны роднага краю. Яна раздзеліць з мужам яго клопаты па ўвекавечанні гістарычнай памяці, разам з ім будзе засмучацца, калі іх намаганні пачнуць натыкацца на абыякавасць савецкіх чыноўнікаў.

Няпростым аказаўся і лёс настаўніцы **Ірэны Бандаровіч** (у дзявоцтве – Аляхновіч), якую з такой любоўю акружаюць на здымку дзяўчаты.

### Як настаўніца трапіла ў Крэва

Ірэна Аляхновіч нарадзілася 3 сакавіка 1909 года ў Гатчыне, што пад Санкт-Пецярбургам, у шматдзетнай сям'і палякаў. Каб даць дзецям магчымасць атрымаць лепшую адукацыю, сям'я пераехала ў сталіцу. Кастрычніцкая рэвалюцыя вымусіла Аляхновічаў перабрацца ў Латвію, у горад Рэзэкнэ, дзе існавала вялікая калонія палякаў і дзейнічала польская гімназія.

Ад недаядання і хвароб хутка пасля пераезду ў Латвію памёр бацька Ірэны. Нягледзячы на цяжкасці, маці прыкладала ўсе намаганні, каб дзеці не засталіся без адукацыі. У час вучобы ў гімназіі Ірэна ўступіла ў Саюз польскіх гарцэраў, папулярную і шматлікую нацыянальную скаўцкую арганізацыю, якая прышчапляла моладзі любоў да Радзімы, Бога і бліжніх. Ідэя гарцэрства так захапіла дзяўчыну, што яна прысвяціла гэтаму руху ўсё сваё далейшае жыццё.

У 1928 годзе сям'я пераехала ў Вільню, дзе Ірэна прадоўжыла сваю адукацыю і вывучылася на настаўніцу геаграфіі. Ад 1930 года яна пачала працаваць па спецыяльнасці ў Крэўскай школе. Ад самага пачатку сваёй працы разгарнула там і гарцэрскую дзейнасць. Энергічная, вясёлая, поўная творчага запалу і ініцыятывы, яна стала кумірам школьніц, якія з ахвотай запісваліся ў створаную ёй дзявочую скаўцкую дружыну імя **Эміліі Плятэр**.

У Крэве Ірэна звязала сваё жыццё з калегам па школе і аднадумцам **Вінцэнтам Бандаровічам**, які паходзіў з-пад Валожына. У іх нарадзілася двое сыноў, адзін з якіх вельмі рана памёр.

### Мужа – у савецкі палон, жонку з сынам – у Казахстан

Прафесійная праца і шматлікія хатнія клопаты не перашкаджалі маладой жанчыне займацца грамадскай дзейнасцю. Акрамя школьнай дзявочай гарцэрскай дружыны, яна апякала і каманду зухаў, у якую ўваходзілі вучні малодшых класаў, і пазашкольную гарцэрскую каманду, і каманду былых гарцэрак, якія сталі дарослымі і абзавяліся сем'ямі. Яна ладзіла злёты, паходы і экскурсіі, спявала ў касцельным хоры, заўжды прыходзіла на дапамогу.

Поўнае планаў жыццё перарвала Другая сусветная вайна. Муж Ірэны, з'яўляючыся афіцэрам рэзерву, трапіў у савецкі палон і апынуўся ў лагеры для польскіх ваеннапалонных у Старабельску Варашылаўградскай вобласці. Саму ге, як жонку польскага афіцэра, 13 сакавіка 1940 года саслалі разам з пяцігадовым сынам **Мар'янам** у Казахстан...

Пра нялёгкае жыццё ў гэтым далёкім краі Ірэна Бандаровіч пазней распавядзе ў сваіх успамінах, для назвы якіх возьме словы з адной польскай песенькі – «Gdzieś daleko stąd został rodzinny dom» («Недзе далёка адсюль застаўся родны дом»).

Ірэна да апошняга дня свайго выгнання не ведала, што **Вінцэнт Бандаровіч** быў расстраляны яшчэ ў 1940 годзе, хутка пасля яе адпраўкі ў Казахстан.

### Адкуль мянушка Біскуп Казахстана

Ужо ў 1941 годзе Ірэну амніставалі, аднак у родным краі ішла вайна, і ёй прыйшлося застацца на чужыне. Каб пракарміць сябе і сына, жанчыне даводзілася цяжка працаваць, спачатку ў калгасе, затым на будоўлі чыгункі Акмалінск – Карталы. Часам даводзілася выходзіць на працу ў 50-градусны мароз.

**Нягледзячы на ўсе цяжкасці, з уласцівай ёй энергіяй Ірэна Бандаровіч бярэцца арганізоўваць у асяродку выгнаннікаў-каталікоў разнастайныя сустрэчы і святы, крыжовыя дарогі і маёвыя песнапенні.**

Біскуп Казахстана – такую жартаўлівую мянушку атрымала яна за тое, што ва ўмовах адсутнасці ксяндзоў на тых абшарах патаемна выконвала некаторыя святарскія функцыі: ладзіла сціплыя набажэнствы, хрысціла, адпявала памерлых, нават спраўляла шлюбы.

Дзякуючы педагагічнай адукацыі Ірэне Бандаровіч удаецца ўладкавацца на працу ў польскі дзіцячы прытулак у Атбасары. Там жа яна бярэцца адраджаць і гарцэрскі рух.

У маі 1946 года разам з выхаванцамі дзіцячага дома Ірэна з сынам перабіраюцца ў Польшчу. Пасяляюцца ў Торуні, дзе да гэтага жылі яе маці і сёстры.

Першы час працуе інструктарам у аддзеле асветы, затым кіруе школай для працоўных. Пазней вяртаецца да настаўніцкай працы ў сярэдняй школе. Наведвае тэатральныя курсы, вучыцца ў Інстытуце вышэйшай рэлігійнай культуры ў Любліне. З галавой акунаецца ў гарцэрскі рух, удзельнічае ў «Саюзе Сібіракоў», які аб'ядноўвае былых ссыльных, і ў руху «Салідарнасць». І да самай смерці працягвае быць каталіцкай актывісткай.

Памерла Ірэна Бандаровіч 2 кастрычніка 2004 года ва ўзросце 95 год. У касцёле, да парафіі якога яна належала, усталяваная мемарыяльная таблічка ў гонар гэтай няўрымслівай і актыўнай асобы, жыццё якой можа быць прыкладам аптымізму, веры, любові да бліжняга і да Радзімы.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

### 30 ЛІСТАПАДА

**120 гадоў** з дня нараджэння **Міхася Лынькова** (Міхаіла Ціханавіча) (1899–1975), беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі. Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. Скончыў народнае вучылішча, настаўніцкую семінарыю (1917). Настаўнічаў, служыў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у савецка-польскай вайне, у разгроме атрадаў С.Булак-Балаховіча. Удзельнік паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь (1939). У 1943–46 гг. і 1949–52 гг. – дырэктар Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР. Акадэмік АН БССР. Сям'я яго (жонка і сын) была расстраляная немцамі ў верасні 1941 года. У 1946 годзе Янка Маўр напісаў апавяданне «Завошта?», у аснову якога лёг гэты трагічны факт.

**1745 (ці 4 лютага 1746 г.).** Нарадзіўся **Тадэвуш Касцюшка** (маёнтак Сяхновічы, цяпер Жабінкаўскі раён), дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстання 1794 года.

### 1 СНЕЖНЯ

**1920.** У Вільні заснаваны Беларускі студэнцкі саюз (дзейнічаў да верасня 1939 года).

### 2 СНЕЖНЯ

**1879.** Нарадзіўся **Фелікс Стацкевіч** (г. Шчучын), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады і Таварыства Беларускай Школы.

### 3 СНЕЖНЯ

**Дзень інвалідаў.**

**1814.** Нарадзіўся **Іосіф Гашкевіч**, дыпламат, мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст.

### 4 СНЕЖНЯ

**145 гадоў** з дня нараджэння **Льва Альпяровіча** (1874 – 1913), беларускага жывапісца.

**80 гадоў** з часу ўтварэння (1939) Баранавіцкай, Беластоцкай, Брэсцкай, Вілейскай і Пінскай абласцей.

**60 гадоў** з часу адкрыцця (1959) у Мінску літаратурнага музея Якуба Коласа (цяпер Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа).

### 5 СНЕЖНЯ

**1793.** Прынятая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай.

### 6 СНЕЖНЯ

**1800.** Нарадзіўся **Іосіф Ходзька** (мястэчка Крывічы, цяпер Мядзельскі раён), навуковец-геадэзіст, падарожнік, тапограф.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Ядзернае паліва для беларускага рэактара гатовае

АСТРАВЕЦ

На Новасібірскім заводзе хімканцэнтратаў завяршылася інспекцыйная праверка – выхадны кантроль выраблenай партыі ядзернага паліва для пачатковай загрузкі ў рэактар энергаблока Беларускай АЭС.

Пра гэта паведамілі ў прэс-службе «Расатама».

Прамы кантракт на пастаўку ядзернага паліва на першы і другі энергаблокі электрастанцыі быў падпісаны ў снежні 2017 года.

**Паводле OSH.BY.**

## Старыя дамы ў рэгіёне будуць прадаваць з аўкцыёна

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ
ВАЛОЖЫН

Такое рашэнне Мінаблвыканкама размясцілі на Нацыянальным прававым партале pravo.by.

Толькі праз аўкцыёны будуць прадаваць канфіскаваныя дамы ў рэгіёне: Мядзеле, Маладзечне, Вілейцы, Валожыне. У спіс уключылі і некаторыя мястэчкі – Івянец і Радашкавічы.

Інфармацыю аб продажы старых і пустуючых дамоў выканкамы размесцяць на сайтах.

**Паводле БелТА.**

## Лукашэнка прапанаваў забудаваць Маладзечна малапавярховымі дамамі

МАЛАДЗЕЧНА

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў лепшага планавання тэрыторый, каб малыя населеныя пункты былі прывабныя для жыцця людзей. Пра гэта ён заявіў 23 лістапада на рэспубліканскім семінары-нарадзе аб павышэнні эфектыўнасці будаўнічага комплексу Беларусі.

Па яго словах, нізкая прывабнасць малых населеных пунктаў абумоўлена неразвітасцю ў іх інфраструктуры, адсутнасцю камфортнага асяроддзя для жыцця.

«Патрабую ад урада неадкладна прыступіць да выканання прынятых рашэнняў па развіцці гарадоў-спадарожнікаў з павелічэннем абёмаў будаўніцтва жылля. Акрамя таго, там адначасова трэба ствараць адпаведную інжынерна-транспартную і сацыяльную інфраструктуру», – запатрабаваў Аляксандр Лукашэнка.

Ён звярнуў увагу на такія буйныя гарады, як Баранавічы, Бабруйск, Маладзечна, Орша, якія таксама павінны стаць месцам прыцягнення людзей.

«У іх трэба развіваць не толькі вытворчасці з рабочымі месцамі, якія будуць добра аплачвацца, але і ствараць камфортнае асяроддзе для жыцця людзей. Не трэба там будаваць 25-павярховыя будынкі. Трэба будаваць раёны малапавярховай забудовы», – лічыць Лукашэнка. Ён даручыў у адным з такіх гарадоў рэалізаваць пілотны праект па комплекснай забудове зямельнага ўчастка малапавярховымі жылымі дамамі.

**Паводле БелТА.**

## Хіты гурта «Бітлз» заспяваюць па-беларуску

МАЛАДЗЕЧНА

Гэта адбудзецца ў межах чарговага спеўнага сходу «Бітлы па-беларуску».

Мерапрыемства зладзяць у пятніцу, 30 лістапада, у 18:30.

Госць – гурт The Apples, Мікіта Найдзёнаў. Вядоўца – **Вольга Трубач**.

Адрас: вуліца Лібава-Роменская, 21.

Уваход вольны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Сквер памяці» з'явіўся ў Залессі

СМАРГОНЬ

Да 100-годдзя заканчэння Першай сусветнай вайны была прымеркаваная закладка сквера памяці ў аграгарадку Залессе.

У гады Першай сусветнай вайны ў сядзібе Агінскага ў Залессі размяшчаўся ваенны шпіталь. Салдатаў, якіх не ўдалося выратаваць пасля цяжкіх раненняў, хавалі на грамадзянскіх могілках у брацкіх магілах. Каб увекавечыць памяць загінулых, па ініцыятыве моладзевага самакіравання, якое функцыянуе пры Залескім сельскім Савеце дэпутатаў, недалёка ад могілак высадзілі дрэвы.

Як распавяла дырэктар Смаргонскага мясцовага дабрачыннага фонду «Паўночныя Афіны М. К. Агінскага» **Ала Шыцікава**, мерапрыемства прайшло пад эгідай праекта «Будучыня – гэта мы». Дрэвы высаджвалі больш за 70 чалавек. Гэта вучні старэйшых класаў Залескай школы, супрацоўнікі сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага, працаўнікі «Смаргоньсілікатабетону» разам з дырэктарам дэпутатам раённага Савета дэпутатаў **Аленай Ярмак**, а таксама моладзь аграгарадка са старшынёй сельсавета **Зянонам Грышкевічам**.

**Паводле SHLIAH.BY.**

# У Вялікае Запруддзе на Валожыншчыне прыбілася свіння без хваста і вушэй

ВАЛОЖЫН

**Жывёла прыйшла ў вёску ў суботу, 24 лістапада.**



Фота забяспечанае чытачамі «Рэгіянальнай газеты».

Мясцовыя жыхары дакладна не ведаюць, адкуль прыйшла гэта свіння.

– Яна пачала хадзіць па дварах. Ела корм, што рыхтавалі гаспадары для сабак і курэй. Начавала ў хлявах. Адзін раз нават кацяня нежывое з'ела. Па памеры невялікая, маладзенькая, хутчэй за ўсё. Вельмі хуткая, жвавая, – распавяла «Рэгіянальнай газеце» жыхарка вёскі **Таццяна Чамерка**.

Па словах Таццяны, жывёлу асабліва ніхто не хацеў браць, бо ў яе вельмі хворыя, пашкоджаныя вушы. Але праз некалькі дзён свінню ўсё ж злавілі. Яе ўзяла суседка Таццяны. Будзе калоць антыбіётыкі, каб вылечыць жывёле хворыя вушы.

Па словах Таццяны, пра здарэнне яны паведамілі ўчастковаму міліцыянеру.

У ветэрынарную станцыю Валожына пра выпадак не паведамлялі. Але, як распавялі нам ветэрынарныя дактары станцыі, сітуацыя не такая ўжо і бяскрыўдная. Невядома, адкуль прыйшла гэта свіння. Можа, у яе быў кантакт з шалёнымі жывёламі ў лесе. У такіх выпадках пра здарэнне трэба адразу паведамляць ветэрынарным дактарам.

Некаторыя мясцовыя жыхары лічаць, што свіння можа быць з тых, якія разбегліся з фуры падчас аварыі ля Беразінскага ў сярэдзіне кастрычніка. Па адлегласці Вялікае Запруддзе знаходзіцца недалёка ад пасёлка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Мядзельская інспекцыя нагадвае аб правілах паводзін на лёдзе

МЯДЗЕЛ

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў падчас зімовай рыбалкі, Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету нагадвае аб правілах паводзін на лёдзе.**

У адпаведнасці з Правіламі аховы жыцця людзей на водах Рэспублікі Беларусь, зацверджанымі пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 11.12.2009 г. №1623, выхад на лёд забараняецца падчас ледаставу, пакуль таўшчыня лёду не дасягне сямі сантыметраў, а таксама ў перыяд, калі лядовае покрыва інтэнсіўна раставае і разбураецца. Пераходзіць вадаёмы па лёдзе варта ў месцах абсталяваных пераправаў. Калі ж іх няма, да пачатку руху па лёдзе перакананайцеся ў яго трываласці.

Трываласць лёду правяраецца пешняй – спецыяльным ломам – або калом. Калі пасля першага ўдару лёд прабіваецца і на ім з'яўляецца вада, варта неадкладна спыніцца і рухацца назад па сваіх слядах. Пры гэтым першыя крокі трэба рабіць, не адрываючы падэшвы ад лёду.

Правяраць трываласць лёду ўдарамі ног забараняецца. Рухаючыся па лёдзе трэба быць асцярожным, уважліва сачыць за яго паверхняй. Варта абыходзіць небяспечныя і падазроныя месцы: упадзенне раўчуку, выхад грунтавых вод і крыніц, скід прамысловых і сцёкавых вод, умерзлыя кусты асакі, травы.

Не рэкамендуецца выходзіць на лёд у завею і цёмны час. Калі пераходзіце групай, варта рухацца на адлегласці пяць-шэсць метраў адзін ад аднаго, уважліва сочачы за тым, хто ідзе наперадзе.

Катацца на каньках дазваляецца толькі на спецыяльна абсталяваных катках. Ствараць каткі на вадаёмах дазваляецца на мелкаводдзі, там, дзе няма хуткай плыні, пасля добрай праверкі трываласці і таўшчыні лёду. Ён павінны быць не меншым за 10-12 сантыметраў. А масавыя катанні дазваляюцца пры таўшчыні не менш як 25 сантыметраў.

Пераходзіць вадаёмы на лыжах рэкамендуецца па пракладзенай лыжні. Калі яе няма, варта адшпіліць мацаванне лыжаў, зняць петлі палак з кісцяў рук, заплечнік трымаць на адным плячы. Адлегласць паміж лыжнікамі павінна быць пяцьшэсць метраў. Лыжнік, які ідзе наперадзе, ударамі палак правярае трываласць лёду і сочыць за ёй.

Падчас апошняй рыбалкі не рэкамендуецца прабіваць шмат лунак на блізкай адлегласці, скакаць і бегаць па лёдзе, збірацца вялікімі групамі. Кожнаму рыбалову пры выхадзе на апошнюю рыбалку пажадана мець з сабой выратавальную камізэльку і вяроўку даўжынёй 15-20 метраў з пятлёй на адным канцы і грузам вагой 400-500 грамаў на другім.

Праваліўшыся пад лёд, трэба дзейнічаць хутка і рашуча кінуць у бок берага замацаваную на поясе вяроўку. Без рэзкіх рухаў трэба старацца выбрацца на трывалы лёд, а затым, лежачы на жываце або спіне, прасоўвацца ў бок берага, адначасова крычаць аб дапамозе.

Таму, хто праваліўся пад лёд, падаюць лесвіцы, дошкі, жэрдкі, вяроўкі і іншыя падручныя сродкі. Набліжацца да яго варта лежачы паўзком, пажадана абапіраючыся на прадметы, якія павялічваюць плошчу апоры.

Калі выратавальнікаў двое і больш, то лепш утварыць ланцужок, утрымліваючы адзін аднаго за ногі.

**Раман ЛЕСІН,**
**намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Завушніцы з бурштынам – як напамін пра Латвію

## Падарожныя нататкі пра наведванне Рыгі

**На вакзале нас сустрэлі чайкі, куды больш крыклівыя і буйныя, чым на Вілейскім вадасховішчы. Кіроўца пад гальштукам дапамог з чамаданамі. Так нас сустракала Рыга.**

МАЛАДЗЕЧНА

Горад памятала вельмі цьмяна. Была там пару разоў у далёкім дзяцінстве праездам. З тых часоў запомніла толькі рыбныя сасіскі ды жавальныя цукеркі. Таму нядаўнюю сустрэчу напрыканцы лістапада можна лічыць першай.

### Любові з першага погляду не адбылося

Не скажу, што падчас гэтага першага спаткання Рыга захапіла мяне, як, напрыклад, Кіеў. Бо яго год таму палюбіла з першай хвіліны і назаўсёды. Але дзякуючы кароткім вандроўкам па старой Рызе і аглядавай экскурсіі латвійская сталіца паступова растапіла маё сэрца.

Журналістка **Івона Плаўдэ** паказала нам Домскую плошчу і Шведскую браму, з якой некалі пачынаўся горад, правяла па каларытных брукаванках і самай вузкай вуліцы Рыгі.

Ад 15 стагоддзя захаваліся ў старым горадзе тры дамы, якія стаяць вельмі блізка адзін да аднаго. Іх называюць «Тры браты». Цікава тое, што і сёння ў гэтых пяцісотгадовых будынках жывуць людзі. Гісторыкі мяркуюць, што ў 15 стагоддзі дамы пабудавалі тры рамеснікі аднаго роду.

Адзін з самых старых будынкаў у Рызе – парахавая вежа. Яе пабудавалі ў 13 стагоддзі. У 17 стагоддзі порах, што захоўваўся тут, выбухнуў. Вежа значна пацярпела, але ў хуткім часе яе аднавілі.

Не адно стагоддзе захоўваецца на вулках старой Рыгі домік кАта. Як распавёў нам экскурсавод, на працягу доўгіх гадоў жыхары горада грашова ўтрымлівалі двух чалавек: кАта і работніка, які чысціў памыйныя ямы.

Галоўны манумент Латвіі – помнік Свабоды. У гонар незалежнасці краіны яго паставілі ў сярэдзіне 1930-х. Ля помніка ганаровую варту нясуць латышскія вайскоўцы.

### Уздоўж Даўгавы

Арганізаваная экскурсія працягнулася самастойнымі паходамі. Нехта наведаў Цэнтральны рынак горада, што месціцца побач з вакзалам. Рынак дзеліцца на пяць вялікіх павільёнаў-ангараў. Лічыцца, што менавіта тут можна набыць самыя свежыя прадукты.

Але, як адзначаюць мясцовыя, добра завітаць сюды летам, калі шмат ягад і садавіны. А тое ж мяса, малако і вядомыя рыжскія шпроты будзе танней набыць у краме.

Рынак таксама з гісторыяй. Для наведнікаў ён адкрыўся ў 1930-я. У розныя часы ў павільёнах былі выставы аўтамабіляў, творчыя майстэрні мастакоў.

Гледзячы на хвалі Даўгавы, падумала: колькі беларускіх рэчак магло ўмясціцца сюды. Побач з ракой – велічны Рыжскі замак. Гісторыя будынка пачынаецца ад 14 стагоддзя. Спачатку там была рэзідэнцыя магістра Лівонскага ордэна. Потым у замку жылі і паступова дабудоўвалі яго шведы, палякі і шведы. Замак паспеў пабыць турмой, рэзідэнцыяй прэзідэнта, Палацам піянераў.

Уздоўж Даўгавы даблукалі да порта. Паглядзелі на вялізны паром. «Эх, сесці б на яго – і ў Стакгольм», – падзялілася марамі бабруйская журналістка.

### А раз на сто гадоў з-пад зямлі вылазіць вядзьмарка

Цяпер ад гісторыі – да сучаснасці. Сёння ў які бок горада ні глянь – ці не ўсюды пабачыш пад'ёмны кран. Рыга актыўна будуецца. У сувязі з гэтым ёсць нават легенда. Быццам бы раз на сто гадоў з-пад зямлі з'яўляецца вядзьмарка і пытаецца, ці пабудаваная Рыга. Калі адказаць, што пабудаваная, горад у тую ж хвіліну праваліцца пад зямлю. Вось і будуюць латвійскую сталіцу бесперапынна.

На вуліцы часта чуецца руская мова і ўсюдысны рускі мат, ад якога не схавацца нават у Латвіі. У крамах і на вуліцах побач з латышскімі песнямі можна пачуць і рускія поп-гурты. А ўвогуле, калі працягваць музычную тэму, то за тры дні мы сустрэлі шмат вулічных музыкантаў: з саксафонам, барабанамі, гітарамі, скрыпкай. А ў старым горадзе нават пачулі на вуліцы акапэльныя спевы.

Сваёй музычнай культурай мясцовыя жыхары ганарацца. Вельмі паважліва ставяцца да народных песень. І сёння ў іх захаваліся два музычныя творы з 11 стагоддзя – тагачасныя вайсковыя песні.



Вясёлкавы мядзведзь захапляе турыстаў не менш, чым латвійскія славутасці.

### Такая дарагая Латвія

У безумоўным трэндзе ў Латвіі – вышыванка. Арнаментам падобная да беларускай, але ў бела-барвовых колерах латышскага сцяга. Сувенірныя крамы прапануюць арнаментаваныя шапкі, шалікі, пальчаткі, упрыгажэнні. Усё вельмі вабіць жаночае вока, і... усё вельмі дорага.

– Так... Гэта не Украіна, куды прыедзеш з 50 доларамі, накупляеш вышыванак і ўвогуле ні ў чым не адмаўляеш сабе, – адзначалі мае калегі-журналісты.

Латвія – краіна сапраўды дарагая. На закупы мясцовыя жыхары ездзяць у таннейшыя Літву або Польшчу. Як распавяла латышская калега Івона Плаўдэ, заробкі тут пачынаюцца прыкладна ад 500 еўра. Журналісты з яе газеты атрымліваюць тысячу. Але на наша дружнае «ваў!» Івона адказала:

– А ведаеце колькі мы плацім за электрычнасць? Трыста еўра...

**Яшчэ нам, журналістам, было цікава даведацца, што ў Латвіі няма Міністэрства інфармацыі. Ёсць, па словах Івоны, «два з паловай чалавекі» ў Міністэрстве культуры, якія займаюцца медыямі.**

### Бурштын, бальзам, шпроты

Што варта прывезці з Латвіі? Нічога новага не скажу. Здаецца, гэты набор не памяняўся з савецкага часу: рыжскі бальзам, бляшанку шпротаў, цукеркі «Лайма». Яшчэ духі «Дзінтарс», калі вам пашчасціць выбраць свой водар. У мяне гэтага не атрымалася.

А вось завушнічкі з бурштынам нашу з задавальненнем. Гляну ў люстэрка – і прыгадаю латвійскую вандроўку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## Найлепшым гульцом ФК «Смаргонь» стаў Павел Дзямідчык

СМАРГОНЬ

Галасаванне правяла прэс-служба клуба.

Па выніках галасавання 22-гадовы **Павел Дзямідчык** стаў найлепшым гульцом за сезон 2018 года. Ён набраў 34,58% галасоў. За ім ідзе 26-гадовы **Уладзімір Казко** з 19,16% і 29-гадовы **Аляксандр Талканіца** з 17,29%.

Павел Дзямідчык згуляў у 27 матчах і мае на рахунку найбольш галоў – пяць.

Казко згуляў у 23 матчах, забіў тры галы. Талканіца – лідар па матчах, згуляў у 28. Забіў тройчы.

**Паводле прэс-службы ФК «Смаргонь».**

## Ксенафонтава назвалі лепшым гульцом «Чысці»

МАЛАДЗЕЧНА

Галасаванне за лепшага гульца сезона правяла адміністрацыя суполкі ФК «Чысць».

Пераможцам з 33,58% галасоў стаў 19-гадовы нападаючы **Аляксандр Ксенафонтаў**. Ён згуляў у 12 матчах. Мае на рахунку чатыры галы.

Другое месца балельшчыкі аддалі **Мікіту Мятліцкаму** – 24,16%. 23-гадовы паўабаронца згуляў у 25 матчах. Забіў два галы.

Трэцюю пазіцыю з 13,29% заняў **Аляксандр Працкевіч**. 32-гадовы нападаючы згуляў у дзевяці матчах у асноўным складзе і ў васьмі – на замене. Забіў два галы.

**Аддзел інфармацыі.**

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Абралі найлепшага гульца ФК «Маладзечна»

МАЛАДЗЕЧНА

Лідарам галасавання сярод фанатаў стаў 23-гадовы паўабаронца **Мікіта Дудо** з 26,42% галасоў. Галасаванне арганізавала адміністрацыя суполкі ФК «Маладзечна».

Дудо ўдзельнічаў у 25 матчах. Ён забіў дзевяць галоў за сезон.

На другой пазіцыі ідзе **Сяргей Дрозд** з 21,13%. 35-гадовы абаронца ўдзельнічаў у 18 матчах.

Трэцяе месца ў галасаванні атрымаў **Павел Шчарбачэня** з 20%. 22-гадовы варатар адгуляў 28 матчаў. Прапусціў 64 галы, мае шэсць сухіх матчаў.

Статыстыка сезона для ФК «Маладзечна» – гэта 8 перамог, сем нічыіх, 13 паражэнняў, 46 забітых мячоў, 64 прапушчаныя мячы, 31 ачко.

Самая буйная перамога скончылася з лікам 4:0. Самы значны пройгрыш – з лікам 6:0.

**Аддзел інфармацыі.**

● МІНІ-ФУТБОЛ

## Прайшоў першы тур чэмпіянату Гродзеншчыны

АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ
СМАРГОНЬ

24 і 25 лістапада каманды па міні-футболе згулялі ў першым туры чэмпіянату вобласці.

У Ашмянах сышліся каманды «Ашмяны» і «Фарсаж» са Слоніма. Перамаглі госці з лікам 5:9.

У Лідзе выступілі каманды гаспадароў і каманда гасцей, «Мядзведзі» са Смаргоні. Смаргонцы прайгралі «Лідзе» з лікам 10:2.

У Мастах спаборнічалі каманды гаспадароў і госці – клуб «Саюз» з Астраўца. Астраўчане заваявалі перамогу з лікам 8:10.

Каманды нашага рэгіёна змагаюцца ў групе «А».

**Аддзел інфармацыі.**

ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА ПОСЛЕ 1 ТУРА.

FUTSAL

ГРУППА «А»

| МЕСТО | КОМАНДА | И | В | Н | П | З | П | ОЧКОВ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | МФК «ЛИДА» ЛИДА | 1 | 1 | 0 | 0 | 10 | 2 | 3 |
| 2 | МФК «ФОРСАЖ» СЛОНИМ | 1 | 1 | 0 | 0 | 9 | 5 | 3 |
| 3 | МФК «СОЮЗ» ОСТРОВЕЦ | 1 | 1 | 0 | 0 | 10 | 8 | 3 |
| 4 | МФК «ОШМЯНЫ» ОШМЯНЫ | 1 | 0 | 0 | 1 | 5 | 9 | 0 |
| 5 | МФК «МОСТЫ» МОСТЫ | 1 | 0 | 0 | 1 | 8 | 10 | 0 |
| 6 | МФК «МЕДВЕДИ» СМОРГОНЬ | 1 | 0 | 0 | 1 | 2 | 10 | 0 |

ГРУППА «Б»

| МЕСТО | КОМАНДА | И | В | Н | П | З | П | ОЧКОВ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | МФК «ЦЕМЕНТНИК» КРАСНОСЕЛЬСКИЙ | 1 | 1 | 0 | 0 | 8 | 4 | 3 |
| 2 | МФК «ГК ИМ. В. И. КРЕМКО» КВАСОВКА | 1 | 1 | 0 | 0 | 5 | 2 | 3 |
| 3 | МФК «БЕЛЛАКТ» ВОЛКОВЫСК | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| 4 | МФК «ВОРОНОВО» ВОРОНОВО | 1 | 0 | 0 | 1 | 2 | [illegible] | 0 |
| 5 | МФК «НОВОГРУДОК» НОВОГРУДОК | 1 | 0 | 0 | 1 | 4 | [illegible] | 0 |

Ілюстрацыя: Федэрацыя футбола Гродзенскай вобласці.

Турнірная табліца чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе.



Фота забяспечанае прэс-службай ХК «Дынама-Маладзечна».

Злева направа: Юлія, Карней і Іван Ягоравы падчас матча.

# Двухгадовы Карней разам з бацькамі наведвае гульні ХК «Дынама-Маладзечна»

МАЛАДЗЕЧНА

**– Карней, а ты можаш цёці сказаць, што мы на хакеі крычым?**

**– Ды-на-ма. Ды-на-ма. Трэба гол. Трэба гол. За-бі-вай.**

**Іван Ягораў** зацікавіўся хакеем сем гадоў таму. Спачатку заўзеў за мінскае «Дынама», ездзіў на «Мінск-Арэну». Пасля стаў хадзіць на матчы маладзечанскіх «Зуброў».

– Класна, заўзеў за «Дынама-Мінск», а тут яшчэ «малодшае» «Дынама» з'явілася.

**Да таго, што «Зубры» перасталі быць фарм-клубам, адношуся станоўча. Раней нашых гульцоў забіралі на матчы ў Мінск, і там яны «паліравалі» лаўкі, бывала, што ні разу не выходзілі падчас гульні на лёд.**

Можа, толькі менш насычаная праграма ў перапынках стала.

### Вылецела шкло падчас матча

Разам з Іванам матчы наведваюць яго жонка Юлія і двое дзяцей – Карней і Яфім.

Яфіму цяпер дзесяць гадоў, у яго не заўсёды атрымліваецца наведваць гульні, бо, акрамя школы, займаецца айкідо і футболам. А вось малодшы глядзіць матчы з трох месяцаў. Шмат разумее, падхоплівае на хаду.

**– Калі падчас адной з гульняў з арэны вылецела шкло, дзіця прыйшло дамоў і стала паказваць, як «дзядзька бам аб шкло», – дзеліцца Іван.**

Крычалкі на фан-сектары Карнея не будзілі. Бацькі вазілі сына нават на выязны матч, напрыклад, у Салігорск. Іван кажа, што цяпер Карней на дзіва спакойна паводзіць сябе на гульнях. Садзіцца на калені, і толькі вочы ў яго бегаюць.

### Чаму не хочуць аддаваць у хакейную секцыю

У хакейную секцыю сына аддаваць не плануюць, бо гэты від спорту небяспечны. Але калі Карней захоча сам, падтрымаюць.

– Пакуль хапае таго, што ён прыходзіць дадому і кажа «Тата, а я хачу хакей», – смяецца Іван. – Сам я гуляў у хакей нават без канькоў. Бралі клюшкі, шайбу ці камень, ішлі на лужыну з лёдам, чысцілі яго, вось вам і хакей.

### Якія адносіны паміж заўзятарамі

Цяпер, калі нехта забівае гол, Іван першым крычыць, хто закінуў шайбу, астатнія заўзятары паўтараюць.

На фан-сектары сабраліся людзі, якія сапраўды цікавяцца хакеем, кажа Іван. Але яны абсалютна розныя. З усімі можна пагутарыць, даведацца навіны, дапамагчы адзін аднаму. Некаторыя і пасля хакея збіраюцца, могуць, напрыклад, з'ездзіць разам на шашлыкі. Размаўляюць заўзятары і ў групе ў вайберы. Па словах Івана, раней яна была зараджаная толькі пад хакей. Цяпер абмяркоўваць розныя пытанні.

### Захапленне мужа хакеем падтрымлівае

– Сама хакеем пачала захапляцца яшчэ да шлюбу, – расказвае Юлія. – Разам з сям'ёй былі «пасіўнымі» заўзятарамі – глядзелі матчы па тэлевізары. Раней падабаўся трэнер, перспектыўная моладзь у камандзе, быў бачны прагрэс. Сёлета любімых гульцоў вылучыць не магу, проста заўзею за каманду.

**Мы і дома з мужам абмяркоўваем гульні, новых хакеістаў, траўмы падчас матча, навіны.**

Таксама разам любім ездзіць на прыроду з палаткамі, падарожнічаць. Дома сядзець не любім.

**Таццяна КАСЬЯН.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Вадкая празрыстая смала, якая выцякае са ствалоў хвойных дрэў у месцах іх пашкоджання.
3. Прамысловае прадпрыемства, звычайна буйное.
5. Паручыцель.
7. Камандная спартыўная гульня, у якой гульцы імкнуцца рукамі закінуць мяч у вароты праціўніка.
10. Лекавыя травы, а таксама настой на гэтых травах, які выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне.
14. Памяшканне з печчу або плітой для гатавання ежы.
15. Каб зрабіць гэты прадукт папулярным, гаспадар фірмы галандзец Ван Гутэн пайшоў на неардынарную рэкламу. Ён папрасіў, каб асуджаны на смерць вязень перад смяротнай карай пракрычаў: «Піце … Ван Гутэна». Той так і зрабіў. За гэта сям'я пакаранага чалавека атрымала буйную ўзнагароду. А ўся Галандыя абмяркоўвала шакуючую рэкламу, якая бліскуча спрацавала.
16. Званне пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах, гульнях на першынство, а таксама асоба або каманда, удастоеныя такога звання.
17. Норма паводзін, прывычка.
18. Падарожжа да гэтага пункта прызначэння зойме каля сямі месяцаў.
19. Мнагаграннік, асновай якога з'яўляецца многавугольнік або трохвугольнік, а бакавыя грані – трохвугольнікі з агульнай вяршыняй.
21. Урачыстая песня, прынятая як сімвал дзяржаўнага або класавага адзінства.
23. Еўрапейскі бог-каваль.
25. Штаны спецыяльнага крою, якія абцягваюць калені і расшыраюцца ўгору.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. У беларускай традыцыі гэта перараззалі для хлопчыкаў на сякеры, нажы, дубовай кары ці кавалачку хлеба. Для дзяўчынак – на грэбені, верацяне, нітках, нажніцах.
2. Плод дуба.
4. Гэты прадукт італьянскай кухні гатуюць толькі на дубовых дровах. І яны вельмі дарагія ў Італіі.
6. Загадзя вызначаны аб'ём работы.
8. Невялікая, звычайна з ручкай, фарфоравая, гліняная ці іншая пасудзіна для піцця.
9. У Егіпце нярэдка можна сустрэць дамы без гэтай часткі. Бацькі дораць сынам дом без яго. Таму што калі гэтага няма, жытло лічыцца недабудаваным, і за яго не трэба плаціць падаткі.
11. Лаўка ў вагоне для сядзення або ляжання.
12. Дэфіс.
13. Якуб Колас: «Сэнс жыцця нашага – беспрапынны …».
15. Урачыстае абяцанне, запэўненне.
17. Становішча цела, пастава.
20. Сельскае паселішча.
21. Верхняя частка цела чалавека, верхняя або пярэдняя частка цела жывёліны, якая заключае ў сабе мозг.
22. Прозвішча паэта, чый верш упрыгожвае статую ў экалагічным скверы Маладзечна.
24. Выдача чужога твора за свой або выкарыстанне ў сваёй працы чужога твора без спасылкі на аўтара.

## Адказы на крыжаванку з №47

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Вежа. 5. Астравец. 6. Лімфа. 7. Лангет. 8. Лямант. 9. Лозунг. 12. Жорны. 13. Легенда. 14. Субота. 16. Рыбак. 19. Выбух. 20. Жанглёр. 21. Тонус. 22. Хамут. 25. Дзіца. 26. Вайна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Дыплом. 3. Тактыка. 4. Халва. 10. Вобраз. 11. Тварог. 12. Жэтон. 15. Турысты. 17. Гномы. 18. Збожжа. 23. Сіднэй. 24. Партызаны. 27. Лаянка.



## ● ГАРАСКОП 30 ЛІСТАПАДА – 6 СНЕЖНЯ



**АВЕН.** Праявіце такія якасці, якія прынята лічыць жаночымі, – разуменне, мяккасць, чуласць, успрымальнасць. Цяпер у значнай меры ўзмоцніцца інтуіцыя, што дазволіць вам разабрацца ў многіх складаных справах, а таксама адрозніць вінаватых ад невінаватых.



**ЦЯЛЕЦ.** Магчымыя праявы такіх эмоцый і якасцяў, як запал, сквапнасць, прага і празмернасць. Такі парыў у большай меры будзе тычыцца міжасабовых адносін, калі вы не зможаце стрымліваць сябе і свае жаданні. Узмацняецца ваш уплыў на іншых людзей.



**БЛІЗНЯТЫ.** Ці не ўвесь перыяд вы будзеце ў адзіноце, але нічога страшнага. Вы зразумееце, што самы дарагі чалавек адносіцца да вас так, што сур'ёзней і быць не можа.



**РАК.** Цудоўны час для гарманізацыі адносінаў з каханымі, дзецьмі. У цэнтры будзе любоў. І вы будзеце атрымліваць яе адусюль: ад каханага, дзяцей, сваякоў, знаёмых.



**ЛЕЎ.** Акуніцеся ў атмасферу надыходзячых святаў. Упусціце ў сябе энергію святла і любові. Адчуйце, як штосьці неверагодна лёгкае, прыгожае і казачнае напаўняе вас. Чакайце цудаў.



**ДЗЕВА.** Не адстойвайце свае пазіцыі, старайцеся быць мякчэйшымі і да сябе, і да іншых. Энергічнае прынядце рашэнняў адносна дома пасадзейнічае заўважным пераменам. І тады жыццё падорыць вам шмат станоўчых эмоцый.

**ШАЛІ.** Вам трэба перагледзець свае прыярытэты. Ваша жыццёвая пазіцыя, а таксама планы і слушныя дзеянні не адпавядаюць рэчаіснасці. Старайцеся дзейнічаць размерана, не спяшацца, а яшчэ заўсёды шукайце іншыя спосабы дзеянняў, акрамя тых, што здаюцца вам відавочнымі і адразу прыходзяць у галаву.



**СКАРПІЁН.** Вас чакае рамантычнае знаёмства. У гэтай сітуацыі многае будзе залежаць менавіта ад вас, а не ад знешніх фактараў. Надыходзіць такі спрыяльны момант, калі вы з'яўляецеся гаспадаром свайго лёсу. У вас ёсць сілы і імкненні, каб рабіць крокі наперад, каб развівацца і не стаяць на месцы.



**СТРАЛЕЦ.** Адчувайце сябе лёгка, не бярыце ў галаву лішнюю інфармацыю, не імкніцеся ўсё зразумець, ва ўсім разабрацца і ўсюды паспець – вам гэта абсалютна не трэба. Дазвольце сабе ні пра што не клапаціцца, адпусціць падзеі ў вольнае плаванне, а самі давярцеся свайму сэрцу. Рабіце тое, што прыносіць задавальненне, а не тое, што вы лічыце правільным ці неабходным.



**КАЗЯРОГ.** Цяпер хоць не ўсё будзе ісці гладка, як вам хочацца, вынік акажацца станоўчым, а вы – на кані.



**ВАДАЛЕЙ.** Узнікне жаданне адпачыць і пагультайнічаць, і вы гэта заслужылі. Калі азірнуцца, то вы зразумееце, што зрабілі ўжо многае і справы прыведзены ў парадак. Не ўпусціце вельмі слабае, якое толькі развіваецца, новае пачуццё.



**РЫБЫ.** Цяпер ваша становішча выглядае спрыяльным, але вас мучаць сумневы – вы не ведаеце, што будзе далей. Рухайцеся наперад, адкрывайцеся новаму. У гэты час досыць моцныя вашы разумовыя здольнасці – выкарыстоўвайце іх.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 3 | | | 5 | | | | |
| 1 | 8 | 9 | | | | | | |
| | | | | 9 | 1 | 6 | | |
| 6 | 9 | | 2 | 8 | | | | |
| | | | | | 3 | 7 | | 6 |
| 8 | | | | 1 | 7 | | | 2 |
| | | | 5 | 3 | 4 | | | |
| | 6 | 2 | 1 | | | | 3 | |
| | | 4 | | 2 | | 5 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

- Што рабіць, каб скараціць колькасць бадзяжных жывёл? Ці ёсць фінансавыя магчымасці, каб іх утрымліваць пасля адлову? Ці магчыма арганізаваць прыватны прытулак для іх, каб забіваць не даводзілася? І ці ёсць права ў людзей абыходзіцца з жывёламі, як хочуць? Адказы даюць удзельнікі круглага стала.





## Кастусь Шыталь сустрэне зіму з «Рэгіянальнай газетай». А вы? :)



## Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 1 снежня, субота

**Вецер:** паўднёвы, 3-4 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -27,4°C у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +8,2°C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,5 мм у 1996 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## У маладзечанскіх крамах з'явіўся сыр са смакам... бяспекі




Вось які сыр можна набыць у Маладзечне.

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне з'явіліся малочныя прадукты са смакам бяспекі, расказала «Рэгіянальнай газеце» інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат.**

Тысячу налепак з навучальным тэкстам і нумарамі тэлефонаў службы выратавання «101» і «112» размясцілі супрацоўнікі МНС на прадуктах з дапамогай работнікаў крам.

На налепках – герой навучальнага мультфільма «Чароўная кніга МНС».

– Спадзяёмся, што наш незвычайны напамін пра неабходнасць выканання правілаў бяспекі будзе мець добрыя вынікі, – кажа Валянціна Сопат. – Тэма на налепках абраная невыпадкова. Хутка з'явіцца першы лёд на вадаёмах, а герой мультфільма нагадае пра бяспеку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ставіцеся да павышэння цэн на праезд у аўтобусе?



**Дыяна Рухля, вучыцца на слесара механазборачных работ:**

– Не ў захапленні. Езджу на аўтобусе кожны дзень. Цэны ў крамах растуць, на білеты таксама. А заробак стаіць на месцы. Адкуль людзям браць грошы? Трэба адзенне, абутак, паесці купіць на месяц, камуналка. Калі даражэе ўсё, няхай заробак таксама павысяць.



**Віктар Адамовіч, кіроўца аўтобуса:**

– Вельмі многа езджу на гарадскім транспарце, бо працую кіроўцам. Павышэнне цаны на білеты залежыць ад паліва, якое часта даражэе. Некаторыя людзі абураюцца, некаторыя не. Сам езджу на аўтобусе і як пасажыр. Мяркую, любое падаражэнне не вельмі прыемнае.



**Алена Радзько, медсястра:**

– Калі б ад павышэння цаны палепшылася якасць абслугоўвання, то чаму б не, але толку нуль. Зімой у аўтобусах холад, летам спякота. Грамадскім транспартам карыстаюся рэгулярна. Жыву ў Вялікім Сяле, ходзіць толькі адзін аўтобус. Калі раніцай не прыязджае, адзін спосаб – таксі.



**Кірыл Лазар, фельчар «хуткай дапамогі»:**

– Чарговае павышэнне цаны на праезд – прадказальнае. Бо паліва даражэе амаль кожны тыдзень. Сам карыстаюся грамадскім транспартам рэдка, калі толькі бязвыхадная сітуацыя. Часцей езджу на асабістым.



**Марыя Суднікович, медсястра-дыетолаг:**

– На аўтобусе езджу вельмі рэдка. Павышэнне цаны на білеты звязваю з пастаянным падаражэннем паліва. Трэба ж неяк адбіваць цану.



**Дзяніс Нячаеў, працуе на БЧ:**

– Я трохі здзіўлены, што білеты не даражэлі ўжо вельмі працяглы час, пара б, у сувязі з падаражэннем паліва. Рэдка карыстаюся грамадскім транспартам, калі нешта з асабістым аўто, пешшу хаджу. А яшчэ 25 лістапада і паліва «падскочыла» на традыцыйную капеечку.



**Вольга Мацюк, кандуктар:**

– Павелічэнне тарыфу за праезд у аўтобусе б'е па аплаце працы. 19 гадоў таму плацілі 16% ад выручкі. Да гэтага павышэння плацілі 8,5%. Цяпер могуць «зрэзаць» зноў. А пасажыры незадаволеныя. І яшчэ бясконцае – «дайце пяць капеек». Як міласціну на дзядзінцы.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№48 (1231) 30.11.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1203. Падпісана ў друк у 9.00 29.11.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.